
Ангеліна Масальская →3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714



Памяць пра «случакоў» →9

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 47 (3315) Год LXIV | Беласток, 24 лістапада 2019 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


**Больш за сто чалавек гулялі на дабрачынным балю для Ячанскага прыхода. Гэта ўжо чацвёртая такога кшталту акцыя, якая мае на мэце збор сродкаў для гэтага маленькага прыхода ў гміне Дуброва-Беластоцкая. У Кузніцы, дзе прайшоў баль, сабраліся прадстаўнікі мясцовага самакіравання, Брацтва праваслаўнай моладзі і самі прыхаджане.**




# Дабрачынны баль для Ячанскага прыхода

Сябры і дабрачынцы прыхода ў Ячне сустрэліся на запусным балю. Як заўсёды, мерапрыемства суправаджала беларуская музыка. Кожны жадаючы таксама прыняў удзел у аўкцыёне, у якім можна было купіць, між іншым, майку, падпісаную ўсімі гульцамі клуба «Ягелонія» Беласток, іконы ці мяч падпісаны лідарам гурту «Lady Pank» Янушам Панасевічам і Янам Барысевічам. Ужо традыцыяй балю сталі аўкцыёны каштоўных прадметаў, з якіх грошы будуць перададзеныя Прыхадскому фонду ў Ячне.

— Хачу шчыра сказаць, што я шчаслівы, што ў гэтай цудоўнай зале знаходзіцца так шмат людзей. Асноўная мэта нашай сустрэчы — інтэграцыя ўсіх жыхароў Сакольскага павета, — сказаў у прывітальным слове настаяцель прыхода ў Ячне, айцец Пятро Ганчарук. — Трэба памятаць аб тым, што мы павінны працаваць разам для нашай, так бы мовіць, малой радзімы. Дзякую, што вы прыйшлі, бо без вас баль не мог бы адбыцца. Наша сустрэча, акрамя інтэграцыі, таксама накіравана на падтрымку нашай невялікай парафіі, якая зараз налічвае менш чым 200 чалавек.

Таксама і ў гэтым годзе на агульны лік больш за ста ўдзельнікаў-дабрадзеяў, супрацоўнікаў, прадстаўнікоў мясцовых органаў улады, якія сабраліся 15 лістапада ў рэстаране «Бона» ў Кузніцы, чакала шмат прызоў. Частка з іх гэта дары ад спонсараў, у тым ліку ад сакольскага старасты Пятра Рэцькі, а таксама ад мясцовых прадпрымальнікаў.

— Мяне вельмі цешыць, што тут аб'яднаныя праваслаўныя Сакольшчыны, але не толькі, — сказаў сакольскі староста Пятро Рэцька. — Сустракаемся часцей чым раз у год — разам святкуем маланкі і іншыя мерапрыемствы, падчас якіх разам гуляем. Наш Сакольскі павет доўга памятае тыя цудоўныя падзеі. Я хачу падзякаваць айцу Пятру і матушцы Анне за арганізацыю так добрай урачыстасці. Яшчэ раз падкрэслю, што гэта вельмі важнае, каб мы, жыхары Сакольшчыны, аб'ядноўваліся ў добрай справе, неслі дапамогу другім.

Першы дабрачынны баль, які прайшоў у Дуброве-Беластоцкай, арганізаваны быў з мэтай збору сродкаў для адрамантавання купалаў царквы, якія працякалі, заліваючы інтэр'ер храма. Як адзначыў айцец Пятро Ганчарук, настаяцель Ячанскага прыхода, сёлета грошы з дабрачыннага балю будуць прызначаны на адмаляванне царквы ў Ячне.

— За гэты баль мы хочам падзякаваць людзям, якія падтрымліваюць нас з самага пачатку, — сказаў айцец Ганчарук. — Звычайна мы бачым сябе ў сітуацыях, звязаных з функцыянаваннем прыхода, але раз у год мы хочам разам праводзіць час у святочных абставінах. Гэта магчымасць для нас пагаварыць адзін з адным,



■ Матушка Анна і айцец Пятро Ганчарукі



■ Каталіцка-праваслаўны экуменічны абдымак. Злева: сакольскі староста Пятро Рэцька і намеснік сакольскага старасты Юрка Беламызы

паглядзець адзін аднаму ў вочы, абмяняцца поціскам рукі.

Дабрачынны баль быў таксама падтрыманы Фондам святога Спірыдона, які дзейнічае ў Сакольцы. Таму на мерапрыемстве прысутны быў таксама вікарый, айцец Юстыніян Ярашук. Айцец Юстыніян падкрэсліваў, што Фонд святога Спірыдона гуртуе вакол сябе людзей і ўстановы, якія клапоцяцца не толькі пра матэрыяльныя патрэбы, але, перш за ўсё, з'яўляюцца «сталіцай чалавечых сэрцаў». Па словах айца, гэта ствараe прыгожыя адносіны з другім, патрабуючым дапамогі чалавекам, якога не пакідаюць, а — наадварот — ставяць яго ў цэнтры ўвагі.

— Гэта самае прыгожае ў жыцці, калі чалавек не жыве толькі для сябе. Вось так нараджаецца самае прыгожае — любоў паміж людзьмі, — сказаў айцец Юстыніян. — Наш фонд дапамагае ўсім, хто патрабуе дапамогі. Тут няважная канфесія чалавека, яго погляды ці ўчынкі. Калі звернецца, мы дапаможам. Таксама арганізуем дабрачынныя мерапрыемствы і цешуся, што айцец Ганчарук пашырае прыгожую традыцыю дабрачыннасці.

Айцец Юстыніян таксама звярнуў увагу на дэмаграфію Сакольшчыны. Вёскі пусцеюць, а невялікія прыходы, такі як Ячанскі, аб'ядноўваюць штораз менш прыхаджан.

— **Дзесяць гадоў таму, калі я пачаў працаваць вікарыем у Сакольцы, я вучыў дзевяноста дзяцей. Сёння іх трыццаць, — кажа айцец Юстыніян. — Гэта добра адлюстроўвае дэмаграфію Сакольшчыны. У вясковых прыходах, такіх як той у Ячне, справа выглядае яшчэ горш.** Мы разумеем, што для людзей часам непатрэбны самыя грошы, але кантакт з другім чалавекам — проста размова.

Як штогод баль падтрымаў таксама намеснік сакольскага старасты Юрка Беламызы, які падарыў для аўкцыёну сваю новую кніжку «Простая мова жыхароў гміны Дуброва-Беластоцкая». Юрка Беламызы часта падкрэслівае, што царква ў Ячне яму асабліва блізкая, таму што менавіта там удзельнічаў у літургіях будучы дзіцём.

— Цешуся, што нешта цікавае ў нас адбываецца, — сказаў намеснік сакольскага старасты Юрка Беламызы. — Мы ахвотна падтрымліваем усе ініцыятывы, якія нас, сакальшчан, інтэгруюць. Трэба цешыцца, што айцец Ганчарук умее аб'яднаць людзей і зрабіць нешта добрае і вартаснае. З гэтага кожны бярэ радасць для сябе.

У 1985 годзе царква ў Ячне згарэла і толькі дзякуючы рашучасці і працы жыхароў вёскі ўдалося пабудаваць новую. Пра гэта дэталёва пісаў журналіст «Нівы» Аляксандр Вярбіцкі («Ніва» № 10 (3173), 5 сакавіка 2017 г.). Відаць, што пра гэта памятае таксама настаяцель айцец Ганчарук, які даказвае, што клопат яго прыхаджан не быў дарэмным і зараз мы, чарговае пакаленне, павінна ўзяць адказнасць за храм, які паўстаў дзякуючы супольнай працы, і пра які мы павінны клапаціцца, аддаваць належную павагу і пашану.

Тэкст і фота **Уршулі ШУБЗДЫ**





# Дэпутаты Каліноўскага (4)

Вёска Якушоўка ўжо прызвычаілася, што ў апошнія выходныя кастрычніка сюды пад бела-чырвона-белымі сцягамі завітаюць госці з розных куткоў Беларусі, каб ушанаваць памяць беларускіх вавяроў мінулага. Каб ушанаваць памяць тых герояў, што аддалі свае жыцці дзеля беларускай мары. Высокі драўляны крыж Еўфрасінні Полацкай аздоблены металам і пастаўлены ў гонар слаўных вавяроў узвышаецца на ўскрайку Якушоўкі, недалёка ад падмуркаў сядзібы Каліноўскіх. Падмуркі мясцовыя патрыёты закансервавалі як умелі ад далейшага разбурэння, каб да нашчадкаў дайшло гэтае матэрыяльнае сведчанне, што тут жылі героі...

Сённяшняя беларуская дзяржава не парупілася хаця б дапамагчы ім. А вось мясцовыя неабыякавыя руплівцы, без адпаведнай адукацыі, без фінансавання, без матэрыяльнай зацікаўленасці, без усяго, усё ж змаглі зрабіць тое, чаго не зрабіла ўлада з іх адпаведнымі інстытутамі і мажлівасцямі, і з неверагодна вялікім штатам ідэолагаў, што сядзяць не на самых кепскіх заробках, а вось якую ідэалогію спавядаюць, хіба што і самі не ведаюць... А гэтыя хлопцы ведаюць...

— Прыйдзе такі час, калі гэтае свята, дзень памяці паўстанцаў Кастуся Каліноўскага і ўсіх палеглых за Беларусь, тут, у Якушоўцы, і ў Свіслачы, і ў Мінску, і па ўсёй Беларусі, будзе адзначаць наша дзяржава, — скажа ледзьве не кожны з выступоўцаў.

Ужо многа гадоў тут гучаць гэтыя словы, з надзеяй, што такі час надыдзе хутка. Тут складалі прысягу на вернасць Беларусі сябры патрыятычных арганізацый, тут выступалі лідары палітычных партый і грамадскіх арганізацый краіны, сюды прыязджалі прэтэндэнты на дэпутацкія месцы ад апазіцыі, сюды наведваліся і наведваюцца дэпутаты дванаццатага склікання, якія прымалі Дэкларацыю Незалежнасці Беларусі...

Але для кожнага з тых, хто сюды прыязджае, найвышэйшым званнем ёсць быць Дэпутатам Каліноўскага.

Тут стаіць і памятны камень. Тут, калісьці, была высаджана дубовая алея, і адным з удзельнікаў той пасадкі быў Станіслаў Шушкевіч, старшыня Вярхоўнага Савета, пры якім была абвешчана незалежнасць Беларусі і дзяржаўнасць Беларускай Мовы, як працяг мараў і змагання тых палеглых герояў...

Алеі зараз няма. На месцы пасадкі былі выяўленыя сляды саляркі, ад якой, хіба, кволыя парасткі і загінулі. Знайшліся ж і такія, хто ліў тую салярку на жывыя дрэўцы і людскую памяць. Але прысутныя ведаюць, што тая дубовая алея ўзрасла ўжо ў душах беларускіх патрыётаў. Прыйдзе час, і ў Якушоўцы яна будзе адноўлена...

Такія тут размовы гучаць ля памятнага крыжа. Грыміць чарговае „Жыве Беларусь!!!”, і прысутныя традыцыйна фатаграфуюцца на гістарычным месцы. А пасля транспарт вязе ўсіх у лес, на заключную частку. У лес, каб дыхнуць поўнымі грудзямі паўстанцкага паветра і набрацца з тым паветрам іх сілы, адвагі і веры...

Знак з надпісам „Белавежская пушча” ветліва паглядае на аўтобус, бусы і легкавікі з удзельнікамі мерапрыемства. А на лясной паляне мясцовыя актывісты ўжо паставілі стол са стравамі...

Агеньчык вітае гасцей. Цешыцца, мацнее, падымаецца... Тут, у лясной вольніцы, за гэтыя доўгія гады азначэння патрыятычнай традыцыі гралі вядомыя і пачынаючыя музыкі, прамаўлялі вядомыя і пачынаючыя палітыкі, рабілі выставы вядомыя і пачынаючыя творцы... Каго і чаго тут толькі не было. Адно было нязменным — усе гаварылі пра нашых славутых продкаў і пра нашу беларускую будучыню...

А гэтым годам размовы зводзіліся яшчэ і да працягу гэтай акцыі ўжо ў Вільні, дзе адбудзецца ганаровае і ўрачыстае перазахаванне парэшткаў славутага кіраўніка паўстання Кастуся Каліноўскага.

— Мы мусім годна адзначыць гэту падзею, — сцвярджалі ўдзельнікі свіслацкай акцыі. — Мы мусім быць вартымі памяці нашых славутых продкаў!

Над Пушчай пачаў апускацца змрок. Аўтатранспарт запаліў фары. Развітальныя размовы, пацісканне рук, абдымкі... Хтосьці паедзе на поўнач, хтосьці на ўсход... Але ўсе ведаюць, што хутка сустрэнуцца зноў. Сустрэнуцца ў Вільні, на перазахаванні парэшткаў Кастуся Каліноўскага. Сустрэнуцца, каб набрацца моцы, адвагі і праўды сваіх славутых продкаў, і прывезці ўсё гэта з сабой назад...

— Да сустрэчы ў Вільні, — так развітваюцца тыя, хто ад'язджае першымі.

— Да сустрэчы ў Вільні, — адказваюць ім астатнія.

**Віктар САЗОНАЎ**



# Калі хопіць часу

Апошнія парламенцкія выбары ў Польшчы замацавалі падзел грамадства на дзве супярэчлівыя паловы — кансерватыўную і адкрытую, ліберальную. Прынамсі, пра гэта кажуць людзі. Ні адна з іх не кепская сама па сабе, ані добрая. Справа не ў тым, што яны аднастайныя ў сваіх светапоглядных, палітычных ці ідэалагічных асновах. Прырода чалавечых асоб больш складаная, чым дагматызм калектыўнасці, які звязвае іх у дэкларатыўную супольнасць. Адзін прадстаўнік аднаго боку можа быць такім жа светлым і разумным, як і прадстаўнік другога — упартым і дурным. Адвечная радыкалізацыя сацыяльных поглядаў можа выклікаць галаўны боль. Гэта, здаецца, выходзіць з-пад кантролю. «Той, хто не з намі, супраць нас!» Гэтаму ленінскаму закліку папярэднічаў крывавы тэрор у бальшавіцкай Расіі. Яго рэха сёння чуецца ў Амерыцы Трампа. Сцэны раздзелаў растуць і там. Амерыка, аслабленая сацыяльнымі канфліктамі, хутка страціць сваю рэпутацыю захавальніка сусветнага парадку, а гегеманісцкі Кітай і таталітарная Расія возьмуць пад сябе зямны шар. Да чаго гэта прывядзе? Невядома, што найбольш падштурхоўвае нас да радыкальных поглядаў, правераных досведам мінулага. Такім чынам, мы прытрымліваемся сучаснасці, таму што яна адлюстроўвае не зусім даўняе мінулае. Аднак будучыня са шматлікімі невядомымі выклікае зразумелы страх. Ці ідучы прагрэс сацыяльнай радыкалізацыі давядзе да вайны — культурнай? Маральнай? Ідэалагічнай? І гэта ўсё больш рэальна, чым гіпатэтычна. Возьмем для прыкладу гістарычна выпадковую падзею, напрыклад, гайнаўскі Марш выклятых жаўнераў, які праслаўляе м.інш. «Бурага», праслаўленага пачынамі нягодными салдата АК. Чаму гэты спрэчны марш, арганізаваны польскімі нацыяналістамі, адбываецца ў Гайнаўцы, а не пад кінатэатрам «Тон» у Беластоку, дзе суд над «Бурым» скончыўся смяротным прысудам? Ці не таму, што Гайнаўка не так напалову «беларуская», таму салідарная з беларускамоўнымі ахвярамі «Бурага», як беларусы з Гайнаўкі, інтэграваныя ў польскую культуру — таксама палякі? Хтосьці настойваў на разрыве іх бікультурнай і двухнацыянальнай, але зладжанай ідэнтычнасці і дакладна па праверанай карціне (з разбуральнай мадыфікацыяй: «Той, хто не з Намі — супраць Нас!») — зачыніць за сценамі гета меншасці. Як лёгка падняволіць «меншасць»! Ці не хутка «меншасцю» будуць абвешчаныя карэнныя палякі, якія паставілі агульнагуманістычныя каштоўнасці вышэй псеўданацыянальнай і псеўдакаталіцкай дробязнасці? І ці згодныя яны на гэта без пярэчанняў? Але спакойна. Гаворка ідзе не пра «нацыянальнасць» ці «канфесійнасць», хоць гэта праўда, што яны з'яўляюцца магутным інструментам сацыяльнай радыкалізацыі. Межы падзелаў значна глыбейшыя і праходзяць ва ўсіх грамадствах. Вядома, гэта не супакойвае, што гэта адбываецца не толькі ў Польшчы. Сам факт, што пасля дэмантажу 154-кіламетровай «Берлінскай сцяны», якая ў сферы чалавечай надзеі здавалася ўніверсальным актам волі, каб канчаткова закрыць сапсаваную гісторыю свету, на працягу наступных 30 гадоў узводзілі некалькі тысяч кіламетраў сцен на зямным шары па этнічных, культурных і рэлігійных прычынах і палітычныя даныя даказваюць, што працэс радыкалізацыі грамадства ідзе на праціўцё. Здаецца, гэта сімптаматычная з'ява для падаючага духу сучаснасці. На нашых вачах стары, «аналагавы» свет руйнуецца, гэты новы «лічбавы» і, магчыма, нават «квантавы», яшчэ не цалкам сфармаваны. Няма тут нічога з апакаліптычнага прароцтва. Вечныя страхі і фобіі, схаваныя ў нашай несвядомасці, усё яшчэ прачынаюцца. Будучыня няпэўная. Пад уздзеяннем непрадказальных знешніх фактараў размываюць паверхневыя пласты вядомай рэчаіснасці. Невядомае выклікае самыя вялікія страхі. Мы не ведаем, як складзецца наша будучыня з мільёнамі мігрыруючага насельніцтва, выгнанага голадам і войнамі. Мы не ведаем, што нясуць нам новыя тэхналогіі, ці мы ментальна гатовы, каб асвоіць іх пры нашым цяперашнім разуменні рэчаў. Мы не ведаем усіх пагроз для нашай цывілізацыі, выкліканых інтэрнэтам, робататэхнікай і, як гэта ні парадаксальна, мы ўсё менш і менш ведаем, што рабіць з лішкам вольнага часу. Гэта будзе самай вялікай праблемай у будучыні. Як кіраваць патокам вольнага часу, каб чалавек усё яшчэ адчуваў сэнс свайго існавання і не марнаваў яго адрэналінавымі заменнікамі.

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Выбары тут і там

Мінае чарговы тыдзень сумна-шэрага лістапада, а ў польскай і беларускай палітыцы тэмпература быццам з ліпеньскай жары. Так склалася, што ў Рэспубліцы Беларусь менавіта 17 лістапада прайшоў адбор стаўленікаў кіраўніка беларускай дзяржавы Аляксандра Лукашэнкі ў яго «кішэнны парламент». Вядома было загадзя хто пройдзе, таму некаторыя журналісты з невялічкай дозай памылкі яшчэ перад датэрміновым галасаваннем склалі спісы наменклатурна-народных назначэнцаў. Затое аўтарытарнае «свята дэмакратыі» мае далей на мэце расправіцца з тымі, хто лічыць, што дэмакратычныя працэдуры, ці то ў час выбараў, ці ў штодзённым жыцці яшчэ патрэбныя ў гэтай краіне. Пры нагодзе супольнасці польска-беларускіх палітычных тэрмінаў, у 2020 г., таксама як і ў Польшчы, выпадае тэрмін прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі. Тут у адрозненні ад нашай дзяржавы ўжо ведаем не толькі тэрмін, але і вынік. Таму, што ў мінулую, выбарчую нядзелю Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка афіцыйна пацвердзіў, што прадаўжае сваё дзяржаваўладдзе на чарговы тэрмін. Калі ўсё ўжо яснае і зразумелае, то лічу, што ў такім выпадку ўсялякія гульні ў доўгатэрміновыя і кароткатэрміновыя назіранні нікому абсалютна непатрэбныя. Назіранні запатрабаваныя, калі маем шанц на мінімум дэмакратычнай канкурэнцыі.

Зараз наадварот, яны проста шкодзяць.Так як у папярэдніх гадах таксама. Іх задача — несці нейкую ілюзію наконт існавання выбарчага працэсу. Самыя сфальшаваныя выбары і іх вынік гэта не праблема для «заходніх палітычных элітаў». Нагадаем, хаця б візіт былога маршалка Сената Польшчы Станіслава Карчэўскага ў Мінск і кампліменты ў адрас кіраўніка дзяржавы — «цёплага і сардэчнага чалавека». Цяперашні кіраўнік беларускай дзяржавы і так амаль чвэрць стагоддзя мае міжнародны, унікальны статус «прызнанага, будучы непрызнаным». Усялякія назіранні выбараў — дымная заслона, патрэбная Захаду для гандлю з кіраўніком Беларусі, а не для дэмакратыі.

Першае пасяджэнне польскага Сейма і Сената завяршылася выбарамі новых улад парламента. Калі ў Сейме ўсё было ясным з самага пачатку, што тут уладарыць Права і справядлівасць, то ў Сенаце выбары новага маршалка засяродзілі ўвагу журналістаў і саміх палітыкаў. Выбар Тамаша Гродзкага з Грамадзянскай кааліцыі старшынёю вышэйшай палаты прынясе напэўна не толькі роздум і рэфлексію сенатараў, але ўвядзе эмоцыі і палітычныя інтрыгі ў кантэксце ўсёй агульнапольскай палітыкі. Тут, апрача бягучай палітыкі і заканадаўчай працы, усе прыступаюць да прэзідэнцкай бітвы. Для ўсіх ужо зразумелым стала, што грамадства не вельмі любіць і не падтрымлівае ваенных эмоцый сённяшніх палітыкаў. Таму першае пасяджэнне Сейма было амаль пазбаўленае канфрантацыйных элементаў. Выступы прэзідэнта, маршалкаў Сейма і Сената, лідараў палітычных партый былі кампрамісныя і карэктнымі ў адрас сваіх канкурэнтаў. Толькі крайне правая «Канфедэрацыя» з самога пачатку рэзка адкідае палітычныя дамоўленасці Сейма IX склікання. Дамоўленасці найбольшых пасольскіх клубаў былі бачны па выбарах кіраўніцтва і ўкамплектаванні камісій Сейма. Тут у поўнай згодзе, амаль аднагалосна прымаліся рашэнні ў справе размеркавання пасад. Апазіцыя таксама без праблем атрымала кіраванне некалькімі важнымі камісіямі, што выклікала не толькі здзіўленне, але і абурэнне журналістаў правых медыяў. Прэм'ер-міністр Польшчы Матэвуш Маравецкі, назначаны прэзідэнтам Анджэем Дудай кіраваць чарговым урадам аб'яднанай правіцы, на сваю інаўгурацыю запрашае ўсіх былых прэм'ераў пасля 1989 года. Ці гэта пачатак новай традыцыі пераемнасці ўлады? Ці толькі аднаразовы палітычны ход перад прэзідэнцкай кампаніяй? А мо гэта проста стратэгія ўрада, які не хоча мець прыклеенай латкі правых ястрабаў і авантурнікаў? Як вядома здаўна, з ваўкоў не зробім вегетарыянцаў, але брахання не ўпусцяцца і запалохванне ідэалагічнай тупасцю з боку ўсіх удзельнікаў палітычнага процістаяння вядзе іх да адмоўнага рэйтынгу сярод звычайных выбаршчыкаў. Таму пакуль мы апынуліся, можна мовіць, у пэўным раздарожжы, без яркіх прызнакаў вайны і без адназначнага перамір'я паміж варагуючымі, палітычнымі плямёнамі.

**Яўген ВАПА**

Настаўнікі роднай мовы

# Калі быць настаўніцай, дык толькі беларускай мовы!

**— Чаму Вы сталі настаўнікам беларускай мовы?**

— Настаўнікам я хацела стаць з самых дзіцячых гадоў. Беларускую мову я пачала вывучаць як родную, калі не памыляюся, у другім класе пачатковай школы ў Гайнаўцы. У старэйшых класах я чытала шмат беларускіх кніжак. І тады ўжо ведала, калі быць мне настаўніцай, дык толькі беларускай мовы.

**— Хто для Вас ідэал настаўніка роднай мовы?**

— Вялікае ўражанне несумненна пакінулі дзве асобы. У пачатковай школе ў свет роднага слова ўвяла мяне спадарыня Вольга Сянкевіч. У ліцэі вандроўку па родным суправаджаў спадар Васіль Сакоўскі. Гэта людзі, якія дыхаюць родным паветрам і ўмела перадаюць сваім вучням.

**— Ці супрацоўнічаеце з настаўнікамі беларускай мовы ў іншых школах? Калі так, назавіце сваіх сяброў.**

— Зразумела, супрацоўнічаю з Янкам Карчэўскім, Эвай Люндай, Бэатай Кендысь, Аннай Гжэсь.

**— Якія арганізацыі і ўстановы, паводле Вас, найбольш дапамагаюць?**

— Белавежскі асяродак культуры, АБ-БА, рэдакцыя «Нівы».

**— Ці ведзяце ў школе беларускія праекты для сваіх вучняў? Калі так, назавіце іх.**

— Праекты, якімі я займаюся супольна з Белавежскім асяродкам культуры, гэта «Сунічкі» — дзіцяча-маладзёвы калектыў беларускай нацыянальнай меншасці, «Беларускія вячоркі» ў Белавежы.

**— Ваш любімы беларускі конкурс?**

— Конкурс беларускай гавэнды, «Роднае слова», «Беларуская песня».

**— Ці можаце разлічваць на дапамогу бацькоў, асяроддзя?**

— Калі ёсць патрэба, бацькі заўсёды дапамагаюць.

**— Ці навучанне па прынцыпе добраахвотнасці для вас складанасць ці, можа, козыр?**

— Паводле мяне гэта складанасць. Немагчыма перадаць веды, калі вучань адзін год прысутнічае на занятках, а другі ўжо не.

**— Ці можаце зрабіць усё за тры гадзіны ў тыдзень, што раней запланавалі?**

— Гэта залежыць ад вучняў. Цяпер штораз менш дзяцей і моладзі валодае беларускай мовай ці гаворкай. І бывае так, што за тры гадзіны ў тыдзень настаўнік часам не ў змозе ўсё зрабіць.



**— Ёсць у Вас лаўрэаты прадметнага конкурсу? Калі так, назавіце іх лік.**

— Не.

**— Ці, паводле Вас, падручнікі па беларускай мове дапасаваныя да сучаснасці?**

— На жаль, не ўсе.

**— Ваш любімы падручнік па беларускай мове?**

— «Кругагод».

**— Хто Ваш любімы беларускі аўтар?**

— Віктар Швед.

**— Якую беларускую кніжку Вы актуальна чытаеце?**

— Актуальна мне не хапае часу на чытанне любімых кніжак. А шкада!

**— Ці прывіваеце цікавасць да беларускай прэсы?**

— Чытаю «Ніву» і «Часопіс». Гэтай прэсай карыстаюся на ўроках.

**— Якое, паводле Вас, самае цікавае беларускае мерапрыемства?**



Ангеліна Масальская з малодшым сынам Тамашам

**Ангеліна МАСАЛЬСКАЯ** нарадзілася ў 1978 годзе ў Гайнаўцы. Закончыла Варшаўскі ўніверсітэт па спецыяльнасці беларуская і польская філалогія.10 гадоў працавала ў Беларускім музеі ў Гайнаўцы бібліятэкарам. У школе ў Белавежы працуе з 2013 года. Замужняя, мае двух сыноў.

— Купалле.

**— Ці размаўляеце са сваімі вучнямі па-беларуску па-за ўрокамі, школай?**

— Не заўсёды, але стараюся.

**— Ці маеце прыкрыя ўспаміны ў сувязі са сваёй прафесіяй?**

— Не.

**— Што Вас палохае, наклікае стому?**

— Безумоўна, тэмп жыцця.

**— Ці сярод Вашых вучняў ёсць вядомыя выпускнікі?**

— Пакуль, яшчэ няма.

**— Ці атрымалі Вы ўзнагароды за сваю працу (грашовыя, ганаровыя)?**

— Атрымала адзін раз. Гэта была ўзнагарода за дыдактычную працу і дасягненні.

**— Што Вам дае сілу, натхненне?**

— Перш за ўсё сям'я.

**— Самы цудоўны ўспамін настаўніка беларускай мовы?**

— Такіх успамінаў у мяне шмат. Найчасцей аднак згадваю першыя гады працы ў Белавежы і тых вучняў, якія ахвотна ўдзельнічалі ва ўсіх беларускіх конкурсах і мерапрыемствах. Тады менавіта заснаваўся беларускі школьны калектыў «Сунічкі».

**— Які нацыянальны сімвал упрыгожвае Ваш клас?**

— У маім класе няма нацыянальнай сімволікі.

**— Як бачыце будучыню беларусаў?**

— Будучыня беларусаў залежыць, між іншым, ад таго, які падыход да роднай мовы і спадчыны будуць мець маладыя людзі.

Апытальнік правяла
**Ганна КАНДРАЦЮК**

## Гайнаўскія вуліцы...

...я найлепш памятаю ад сямідзясятых гадоў мінулага стагоддзя. Тады вучыўся ў адным з тамашніх ліцэяў. На шматлікіх вуліцах быў брук і ўхабістыя тратуары там, дзе яны былі. У шматлікіх месцах можна было нагу скруціць. Асабліва вечарам і ноччу пры дрэнным асвятленні вуліц, электралямпачкі ледзь-ледзь блішчэлі. Тратуарныя пліты мелі толькі важнейшыя гарадскія артэрыі.

Зараз многае змянілася на лепшае. Многа вуліц мае асфальтавыя маставыя. Прыбывае іх з кожным годам. Маюць добрыя роўныя і гладкія маставыя нават кароткія і вузкія вулачкі.

Шпацыраваў я па горадзе 8 лістапада гэтага года, між іншым, па вуліцах Баторыя, Спартыўнай, Моставай і Бельскай. Моставая мае асфальтавую ды з чырвонай брусчаткі маставую. Гэтая вуліца не мае тратуара. Новыя тратуары з брусчаткі маюць значныя часткі вуліц Спартыўнай і Бельскай (на адрэзку ад Спартыўнай да Простай). Раней тут быў ухабісты тратуар з плітак.

Я памятаю колішнюю вузенькую сцяжынку, якая вяла ўздоўж пуці і каля семафора ад вуліцы Бельскай да Варшаўскай (тут да самага чыгуначнага пераезда). Цяпер тут бяжыць шырокая асфальтавая вуліца Скарпавая (яна не мае тратуара і прыходзіцца ісці па маставой, а гэта небяспечна). Да яе прымыкае безвылётная вулачка Мазурская і яна мае тратуар ды вулачка Крывая з маставой з чырвонай брусчаткі. Пакуль дайсці да вулачкі Крывой, то пры Скарпавай стаіць многа гаражоў і самаходаў.

Часта хаджу я па вуліцах у цэнтры горада, між іншым, 3 Мая і Пілсудскага ды крыху ўзбоч вуліцай Белавежскай. Яны самыя прыгожыя. Тут тратуары амаль поўнасцю з каляровай брусчаткі. Тут і прыгожыя дашкі-навесы на аўтобусных прыпынках. Прыгожы шырокі тратуар і на адным баку вуліцы Арміі Краёвай, тым ад амфітэатра. **(яц)**

## Тут пераважна драўляныя хаты

Наведаў я вёску Капітаншчына (яна налічвае 30 жыхароў) Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета. У ёй — мураваныя і драўляныя дамы з перавагай тых апошніх. Якраз драўляныя хаты (усіх іх адзінаццаць) тут прыгожыя. Ёсць адна хатка вельмі старая, запушчаная, як і той агародчык каля яе, і зусім забытая. Усе іншыя, па ўсім відаць, маюць добрых дбайных гаспадароў.

У сярэдзіне вёскі быццам час спыніўся. Тут на адным баку вуліцы збегліся ў чародку драўляныя фальварныя цікавыя па архітэктуры і сваёй прыгажосці (некаторыя з ганачкамі). Яны мяне зачаравалі, між іншым, дом былога лесніка Андрэя Мядзведзя. Цікава выглядае дом Міхала Карпюка з дабудаванай другой такой жа часткай і памаляваны на зялёны колер ды хата Андрэя і Бажэны Суботаў.

З Капітаншчыны паехаў я ў суседнюю малую вёсачку Бачынская (прысёлак Ахрымоў, у ім усяго тры драўляныя хаты) і ў Ахрымы. У вёсцы Ахрымы пражывае 97 чалавек. Тут 23 драўляныя дамы, у ліку якіх дзесяць добра захаваных, аднаўленых, ашаляваных і памаляваных.

У драўляным будынку колішняй чатырохкласнай школы цяпер змяшчаецца прыгожая святліца. Як след адрамантавалі сваю хату, між іншым, Вера Радзіванюк, Ліля Кардаш, Ірэна Бельская, гмінны радны і солтыс Ахрымоў Павел Несцярук, Вольга Адамюк (яна нядаўна памерла і хата пустуе), Юрый і Рыгор Бельскія. Мой школьны сябра Юрый Бельскі самастойна адрамантаваў бацькоўскую хату звонку і ўсярэдзіне. **(яц)**

# Залучанская моцная настойка на «Каліне»

— Спявай, Галінка, у нашых галасах і твой будзе, — казалі жанчыны з Залук маладой сяброўцы.

Каб павіншаваць залучанскіх спявачак і спевакоў, прыехалі сяброўскія калектывы не толькі з памежных гмін, улады гміны, павета і і ваяводства, але перш за ўсё фанаты «Каліны», якіх не напалохаў ранні асенні халодны вечар.

— Мы спявалі і раней як жанчыны з гуртка вясковых гаспадынь. А калектыў паўстаў 1999 годзе як «Каліна». Тады ў нас былі першыя дажынкі. І з таго часу я ў калектыве, — кажа Галя Парфенюк-Дробат. — Я ўчора была ў шпіталі на СОРы, дык думаю, што сёння я на сцэне апошні раз.

Янка Карповіч, аніматар культуры, лідар гурта «Хутар»:

— Гэты калектыў адметны тым, што спевакі звярнуліся да пачатку, да найстарэйшых песень, якія яшчэ спявалі іхнія бацькі, бабулі. «Калінкі» падтрымліваюць беларускасць тых слухачоў, якія іх слухаюць. Трэба, каб гэтая культура не знікла. А як яна знікне, то не толькі беларусы згубяць яе, але я думаю, што і ўвесь свет. Яны найбольш наспявалі песень Сцяпану Копу да яго зборніка «Беларускія песні Гарадоцкай зямлі», з якога і мы бярэм, як «Хутар».



**Было...** Ідэя стварэння спеўнага калектыву ў Залуках нарадзілася ў 1999 годзе па ініцыятыве жыхарак, на чале з Валянцінай Паплаўскай. Жанчыны таксама вырашылі арганізаваць мерапрыемствы на школьнай плошчы — спачатку фестываль ураджаю, а праз некалькі гадоў «Купальночку». Зімой 2000 года гурт — яшчэ без імя і інструктара — выступіў на Фестывалі беларускай песні ў Беластоку, дзе заняў другое месца ў сваёй намінацыі. Бачачы актыўную дзейнасць жыхарак Залук, тагачасны войт Гарадоцкай гміны Яўген Семянюк даручыў Віктару Леанкевічу, працаўніку Гарадоцкага цэнтра культуры, стаць яго інструктарам, таксама ахвяраваў 1000 злотых з бюджэту гміны на сцэнічныя касцюмы. Жанчыны пашылі іх самі, а найбольш заангажаваная была ў гэта арганізацыйны кіраўнік каманды Валянціна Паплаўская. Назва «Каліна» была ўрачыста прысвоена ім 20 кастрычніка 2001 г. падчас Дня сеніёра ў Залуках. Група выконвае песні пераважна па-беларуску, але таксама спявае польскія, украінскія і рускія песні. Кожны год на сцэне яны маюць як мінімум дваццаць выступленняў — на розных мерапрыемствах, аглядах, фестывалях, арганізаваных у Залуках, Гарадку і іншых мясцовасцях гміны, павета, ваяводства і краіны. Гурт дасягнуў творчых поспехаў. Штогод ён удзельнічае ў фестывалі беларускай песні ў Беластоку, звычайна займаючы трэцяе ці другое месца ў сваёй намінацыі. Заняў першае месца на аглядзе вясельных песень у Ялоўцы. «Каліна» не толькі спявае, але і прэзентуе фальклорныя сцэнкі. Амаль кожны год прымае ўдзел у аглядзе вакальных калектываў у Чорнай-Беластоцкай. Гурт таксама выступае за межамі ваяводства. Сярод іншага, ён удзельнічаў у сходах нацыянальных меншасцей у Венграве, прэзентацыях гмін Падляшскага ваяводства ў Варшаве і краёвых святах ураджаю, між іншым у Сольцы-Здроі. «Каліна» працуе пад эгідай Гарадоцкага цэнтра культуры, разам з іншымі шматлікімі калектывамі рознага ўзросту. У 2011 годзе, дзякуючы намаганням кіраўнічкі калектыву, былі пашыты новыя сцэнічныя касцюмы, і ў той год выйшаў першы альбом калектыву «Vitajuć Załuki», на які субсідыю атрымалі з бюджэту гміны...

Галіна Парфенюк-Дробат:

— Учора на СОРы была, умірала. А пазаўчора на сцэне. І сёння. Можа, некаторыя ўжо не хацелі і бачыць, як я каракаюся на сцэну. Мне ўжо паўгода на 81 год. То што, ужэ не даволі? Голас то я маю, але сілы трачу. Вось прысела я, і згоматала сабе фартух. А так свой строй прасавала, вылізвала, каб акуратна на сцэну выйсці... Толькі ў Гарадку выступала 23 разы. Мы ўжо на сцэне з 1996 года, калі б дакладна лічыць, значыць 23 гады, пакуль атрымалі імя. Помніш, як кросны я ткала, а Валька прыйшла, ты прыйшла, Аленка прыляцела, кажа: Арганізуйцеся! І па цэлай Польшчы ездзілі. Дзе мы не былі? Два разы былі аж у Баранове. У Варшаве ў гатэлі «Грамада». А гэта — мая залвіца. Мы разам выступалі, ужо не выступае.

— Мы разам пачыналі, — удакладняе Марыя Мойсак, — дажынкі сарганізавалі ў Залуках, паскладаліся, песні калісьці дажынкавыя прыгадалі... Доўга дажынкі ў Залуках былі, пасля ў Гарадок забралі. Спяваць магу. Люблю. Але што — нядужа. Калісь то запросяць на «выстэмпы», сходы паставяць, а парэнчы няма. Ці мяне, каб за руку вадзілі, каб узлезці на сцэну?!. Брыдко. Думаю: а як упаду — людзі з вёскі выжануць, скажуць: чаго, старое, лезя? І думаю: зракуся...

— І дажынкавыя, і вясельныя, і хрысцінныя песні прыпомнілі, — дадае Галя. — Мы спярша былі ўшасцёх. Я, Марыя, Валя, Ліда Філіпчук, Гандзя, Мінчукі. Гандзю ўзялі ў 1998 годзе, калі мы ставілі «Сватоў» — яе ўзялі за дзеўку. Прыехалі іншыя калектывы, улады. Трыццаць чалавек як мы сустракалі, увесь «Асенні ліст» быў... Памятаю, як тыя галубцы на імпрэзу варыла. Памятаеш, Марыя. Як я прадстаўляла дохтара? Узяла слухаўкі. А Ліда за медсястру была... Мы тады зрабілі баль, і ад таго часу мы зарэгістраваны як «Каліна». Спеўны калектыў з Гарадоцкай зямлі, са слаўнай вёскі Залукі, якая адваявала сваю школу, заснавала згуртаванне «Вёска Залукі над Супрасляй». Войт нам даў крыху грошай, а Валька ўцягнула Мар'янну Апановічу.

— Войт даў узнагароду пасля таго, як мы ў Беластоку заспявалі, дасталі ўзнагароду...

— Гэта нам ужо даў другі раз, на спадніцы.

— Не, гэта на зялёны строй, — упіраецца Марыя.

У гэтым першым строі на юбілеі выступіць цяперашняя кіраўнічка Мар'янна. А ўсе іншыя жанчыны — у слаўным, адзіным такім адмысловым, адрозным ад «міністэрскіх» строяў іншых падляшскіх калектываў, у большасці заказаных у Беларусі на фабрыцы — тут вышыты тутэйшыя кветкі ды гронкі каліны.

— У тым зялёным строі мы першы раз выступілі ў Барыку ў 2001 годзе, да восені пашылі. О, маю тут яго ў торбе, зараз пераапрануся!.. Нас усіх было, здаецца, трынаццаць чалавек. Галя Дробат, Мойсак Марыя, Філіпчук Ліда, Мінчукі Вера і Мікалай, Галіна Гжэсь, Валя Паплаўская, Мар'янна ад 2002 года.

— Казалі Галінцы Гжэсь: «Галіна спявай, у нашых галасах і твой будзе!» І на кружэлцы застаўся...

Перад юбілейным выступам хвілінай маўчання памянулі адышоўшых сяброў калектыву: Мікалая Мінчука, Веру Мінчук, Лідзію Філіпчук і Галіну Гжэсь.

Войт Гарадоцкай гміны Веслаў Кулеша:

— Мы вельмі ганарымся тым, што ў нашай гміне ёсць такая магчымасць, каб утрымліваць свае беларускія гурты спевакоў і музыкаў рознага ўзросту і катэгорый. І ў апошні час па чарзе адзначаем юбілеі. Дваццацігоддзе «Каліны» гэта і маё дваццацігоддзе функцыянавання ў самаўрадзе. Так што як самаўрадавец, не толькі жыхар гміны, мог назіраць за мастацкім ростам «Каліны». І цешуся, што залучанскі калектыў вельмі актыўны, як і ўся вёска. Яны дыспазіцыйныя — што б не было, яны падрыхтуюцца, збяруцца, прыедуць, выступяць, трывала і плённа дзейнічаюць. Іх дзейнасць аказвае вялікі ўплыў на развой гарадоцкай культуры. Сабраліся мы тут, каб іх павіншаваць, але і падзякаваць за дасягненні, прамоцыю нашай гміны ў рэгіёне і па-за рэгіёнам, за вялікі ўклад у нашу культуру і падтрыманне традыцыі, нашага вялікага багацця, пра якое трэба дбаць і яго падтрымліваць, каб яно далей развівалася. Я думаю, што калектыў «Каліна» трымаецца і будзе трымацца, спадзяюся што ў згодзе і ў як найлепшым здароўі, у падтрымцы адзін аднаго сяброў калектыву. Для нас яны патрэбныя, і, як улады гміны, абяцаем, што будзем іх падтрымліваць, каб палепшыць іх руплівасць і творчасць. Міла было б нам спаткацца чарговыя юбілеі разам. Жадаю калектыву, каб дзейнічаў як найдаўжэй, з поспехамі, у згодзе. І каб здароўе іх не падводзіла. І каб узрастала іх супрацоўніцтва з іншымі калектывамі з суседніх гмін.

— Яны любяць спяваць, і мы любім спяваць, таму сустракаемся, — кажа Віталь Соха з Тапаркоў. — Мы не ўсе прыехалі на юбілей сяброў. Вось, у большасці і мы немаладыя, у нас адзін спявак нядаўна памёр... Шасцёх нас сёння толькі выступіць. Ды і ўсе хворыя. Выйдзем. Заспяваем. Запрасілі, мы не адказваем. Бачым гурт і з Васількоўскай гміны, са Студзянак, з Супрасльскай — «Арабіна» з Каракуляў. Маюць яны ў рэпертуары многа і беларускіх песень. І яны да нас прыязджаюць.

— Пані Валя кажа, што яны спявалі намнога даўжэй, чым тыя дваццаць гадоў, — кажа Мар'янна Апановіч, сама родам з Сілезіі, якая ў Залукі прыехала на працу, тут выйшла замуж і засталася. — Тады сапраўды калектыву была пяцёрка сябровак. А мы як «Каліна» ад першых залучанкіх дажынак. І я ад таго часу ўвесь час у калектыве. У 1999 годзе першы раз паказаліся на большым форуме, на фестывалі беларускай песні, занялі трэцяе месца... Спявалі мы тады а капэла. Не мелі мы тады яшчэ інструктара, самі вучыліся. І так з году ў год мы збіраемся, рыхтуемся, цешымся тым, што вучымся разам ды выступаем. Шкода, што сёння з намі не выступіць Францішак Апановіч, які перажыў учора нешчаслівы выпадак, ляжыць у бальніцы з гематомай у галаве (крвякам), сам ён выдатны гарманіст і паэт... Спяваем па-беларуску, па-польску, па-ўкраінску, па-руску. Мая ўлюбёная песня — «Спатканне». *Прайшло шмат часу, шмат гадоў, калі цябе спаткаю зноў. Каго даўней я так любіў?..* Пра каханне, і пра такіх, як мы, якія маюць за сабой гады жыцця, — *сеніёраў.* Мы не збіраемся канчаць сёння. Можа, Галя, якая кажа, што не дасць ужо рады, але я спадзяюся, што і яна нас не пакіне.

Тэкст і фота **Міры ЛУКШЫ**

# Тут спатыкаюцца Захад з Усходам

**Пад такім лозунгам 25 і 26 верасня адбыўся ў Беластоку шосты Усходні эканамічны кангрэс. Адзін са шматлікіх панэляў быў прысвечаны пытанню сухога порту на еўразійскім транспартным шляху, які мае нагадваць колішні Шаўковы шлях, злучаючы Еўропу з Кітаем. У папярэднім нумары было пра гэта, цяпер завяршэнне гэтай тэмы.**



Злева направа: Кшыштаф Іванюк, Конрад Новак, Яцэк Пілаткоўскі, Пётр Сіняковіч, Міхал Вр515ньскі

**Патрыцыя ПЭНДРАКОЎСКА** з Інстытута Бойма: — Адносна гаспадарчых кантактаў з Далёкім Усходам ёсць тры выклікі перад якімі стаімо. Першае гэта веды і свядомасць таго, дзе знаходзімся, што можам і якія іншыя інтарэсы ў рэгіёне. Хаця лягчэй было б тавары з Лодзі, для прыкладу, транспартаваць далей, але тут справа не ў геаграфічным палажэнні, але ў спраўным атачэнні для бізнесу. У тым таможных працэдур, якія павінны быць хуткія і сэнсоўныя; ёсць шмат бізнесменаў, якія імпартуюць вырабы цераз Германію, таму што гэта больш аплачваецца, калі ідзе пра пэўнасць і хуткасць. Другое пытанне — у мяне ўражанне, што ў нас няма стратэгіі, што мы хочам рэалізаваць. Паводле мяне Польшча не мае ідэі; была задума раней, што Польшча можа стаць лідарам ініцыятывы „17+1" [у яе складзе дзяржавы Трохмор'я: Эстонія, Латвія, Літва, Польшча, Чэхія, Славакія, Венгрыя, Румынія, Балгарыя, Славенія, Харватыя, Боснія і Герцагавіна, Сербія, Чарнагорыя, Паўночная Македонія, Албанія ды Грэцыя; мэтай эканамічнае супрацоўніцтва з Кітаем — А. В.], як найбольшая дзяржава рэгіёна, але апошняе пагаршэнне адносін з Кітаем паказвае, што Польшча не да канца хоча быць лідарам таго фармату. Сюды ўваходзяць нямецкія, расійскія інтарэсы, амерыканскія. Мы павінны разам з нашымі партнёрамі з ЕС дамаўляць супольную стратэгію, а гэтага нам часта не хапае. Я, як маладое пакаленне, з'яўляюся бенефіцыянтам гэтага ЕС, які даў нам велізарныя магчымасці, якіх не дадуць нам кітайцы ці амерыканцы. Так што варта дамаўляцца з кітайцамі ці расейцамі, але стараючыся будаваць кансенсус у ЕС. І трэба паслядоўна трымацца стратэгіі, якую прымем. Пункт цяжкасці свету перамяшчаецца паміж Токіо, Сеул і Пекін. Чаму гаворым пра веды, стратэгію і паслядоўнасць? Таму, што павінны мы паставіць пытанне: ці мы зможам канкураваць з Дуісбургам? Ці, калі пабудуем тут сухі порт, то ці будзем мець што загрузіць у другі бок? Праблемай Лодзі з'яўляецца тое, што прыязджаюць поўныя кантэйнеры з Кітая, а выязджаюць пустыя. Таму трэба ведаў, каб задумацца ці гэта добрая ідэя. Мапы паказваюць развіваючыеся пагранпераходы паміж Кітаем і Казахстанам. Была я там, і там — трэці свет. Сухі порт Харгос — там многа выклікаў, звязаных з рознымі эканамічнымі строямі. Хочам супрацоўнічаць з ЕАЭС, але гэта не сістэма дзяржаў з вяршэнствам закона. Трэба нам задумацца, як супрацоўнічаць са строямі, якія не сумяшчальныя з намі, дзе няма дэмакратыі, дзе шмат рашэнняў залежыць ад пэўных кланаў, сем'яў. Ці маем тут разбудоўваць сухі порт, а пасля акажацца, што нехта закрые кранік на Усходзе. Бо так сталася з Расіяй, цераз якую некаторых тавараў не можам высылаць у Кітай. Таму патрэбныя веды, якія ў Польшчы недаінвеставаныя, трэба яснай стратэгіі, якой, калі кранаць Кітай, лічу, што яе няма. І калі ўжо будзем мець тую стратэгію, то мусім быць паслядоўнымі.

**Кшыштаф ІВАНЮК**, войт Тарэспальскай гміны: — Сённяшняя дыскусія прыгадвае мне дыскусіі пачатку 1990-х гадоў: калі абмяркоўвалі будову аўтастрады ў Беластоку, то мела яна пралягаць цераз Беласток, калі ў Любліне, то цераз Люблін. Сёння калі чую, што Шаўковы шлях мае быць недзе на Падляшшы, то трэба паставіць пытанне: што такое Малашэвічы? Гэта 200 км пуцей на 300 гектарах. Перагрузачныя магчымасці Малашэвіч у тры-пяць разоў большыя чым паток тавараў — 12 саставаў у суткі можа праехаць, у сярэднім едзе 8-9. Але не ў тым праблема, бо мары адно, а рэчаіснасць другое: мусім палепшыць усё тое, што адбываецца на граніцы. Тут праблема, бо наша ўсходняя граніца з'яўляецца кашмарам. Гэта тэхналогія пагранкантроляў выклікае, што толькі 12 таварных складаў у суткі можна адправіць. Тут і кампетэнцыйныя непаразуменні, хто важнейшы — таможнікі ці пагранічнікі. У Малашэвічы прыязджае 12 саставаў, з чаго толькі палова едзе далей чыгункай, рэшта едзе дарогамі, таму што ў нас праблема з вагонамі, бо няма дастатковай колькасці платформ для перавозу кантэйнераў. Сёння трэба засярodзіцца на паляпшэнні гранічных кантроляў. Да Брэста даходзіць водны шлях, а ў нас чую, што трэба капаць канал ад Брэста да Віслы. Бо чую, што Буг гэта неухадная рака, адзіная ў Еўропе — неўзабаве яна высахне. Менавіта ўрэгуляванне ракі Буг паправіла б яе завароты і той экатэрарызм, які крычыць, што гэта не наша выдумка толькі беларуская. Трэба засярodзіцца на выкарыстанні існуючай інфраструктуры, якая мадэрнізуецца, бо збудавана ў палове мінулага стагоддзя, і патрабуе дастасавання да выклікаў XXI стагоддзя. Але сёння ключавой справай не з'яўляецца будова новай інфраструктуры — існуючая можа ў некалькі разоў задаволіць патрэбы — яна больш перагружала, калі мы не былі ў ЕС — звыш 12 млн. тон; сёння там каля пяці. Трэба толькі зрабіць усё, каб тыя тавары ад'язджалі плаўна. І каб была каардынацыя. Зараз будучую аўтастраду і міжнародны чыгуначны порт злучае мясцовая, гмінная дарога. Не веру, што з ростам колькасці грузаў будзе ўзрастаць грузааблажэнне чыгункі. Сёння па чыгунцы цягнік едзе па Польшчы столькі што і ровар: 20-25 км/гадз.; аўтафура два разы хутчэй, а ўсім залежыць на хуткасці пастаўкі тых грузаў, якія транзітуюцца галоўным чынам у Заходнюю Еўропу. Сёння 60% таварных цягнікоў едзе цераз Брэст-Малашэвічы і трэба зрабіць адно, а пасля раздрабняцца на іншыя пагранпераходы, несумненна патрэбныя.

**Яраслаў ЛЯХ**, старшыня праўлення суполкі Аіда, аператара на перагрузачным тэрмінале Семяноўка: — Зараз маем тры чыгуначныя пагранпераходы, дзе найбольшыя патокі ідуць цераз Малашэвічы і Кузніцу, а цераз Семяноўку значна менш. Затое магчымасці тэрытарыяльнага развіцця найбольшыя ў Семяноўцы. Семяноўка дрэнна скамунікаваная з цэлай чыгуначнай сеткай у Польшчы. З Семяноўкі найбліжэй на станцыі Бельск, Гайнаўка і Нараўка. Да іншых станцый бліжэй або з Малашэвіч, або з Кузніцы. Варта падумаць, як такую сітуацыю змяніць, напрыклад пабудаваць пуць між Семяноўкай і Зубкамі, які выдатна скамунікаваў бы Семяноўку з Беластокам і далей. У Семяноўцы пабудаваны пагранпераход, зараз мадэрнізуюцца чыгуначныя пуці, затое дарожны даезд у катастрафічным стане. Гэтыя інвестыцыі зусім з сабою не скаардынаваныя.

**Раман ЧЭПЭ**, стараста Беластоцкага павета: — У справе пракладкі чыгуначнай лініі, якая б абмінала Беласток, чуваць толькі пратэсты, затое не чуваць галасоў мясцовых палітыкаў, якія б падтрымалі такую важную для мясцовай гаспадаркі ініцыятыву. Але гэта вы іх выбіраеце.

* * *

Іншая са шматлікіх панэляў была прысвечана пытанню выкарыстання мясцовых крыніц энергіі ў самаўрадавым маштабе.

Падляшскае ваяводства забяспечана, слабая тут і ўстарэлая сецьэнергаапсьбітаў: электрычнасці і газу. У публічнай прасторы часта паяўляецца праблема энергетычнага выключэння. У выпадку індывідуальных асоб маем з гэтым дачыненне тады, калі дадзеная асоба прызначае звыш 10% сваіх прыходаў на электраэнергію. Адзінкі тэрытарыяльнага самакіравання таксама стаюць перад такой праблемай.

**Пётр СІНЯКОВІЧ**, бургамістр Сямятыч: — Калі кошт энергіі павысіцца, то не ўяўляю, што маглі б мы выключыць асвятленне вуліц ці адключыць электраток для школ. Выкарыстоўваючы новыя тэхналогіі трэба зніжаць кошт тае энергіі. Цяпер на гэта расходуем 80 млн. зл.

**Кшыштаф ІВАНЮК**, войт Тарэспальскай гміны, старшыня Звязу сялянскіх гмін: — Будучыня істотная для самаўрадаў, калі кошты ўсё растуць і перадаюцца на камунальныя паслугі, бо ж цана вады, вывазу смецця, перапрацавання тых адкідаў — то ўсё гэта будзе весці да незалежнага ад самаўрадаў росту коштаў. Мала хто ўсведамляе сёння, што тыя ўсе вельмі патрэбныя льготы падаходнага падатку вядуць у нас да зніжэння даходаў самаўрадаў. Падаходны падатак у палове з'яўляецца прыходам самаўрадаў; у гмінах астаецца 38%, 10% у паветах. Мы ў палове ўдзельнічаем у тых льготах, што ў выпадку найслабейшых гмін, якіх на Усходзе найбольш, вельмі істотнае. Калі некаторыя самаўрады страцяць свае прыходы, бо іх папросту не будзе, могуць мець сур'ёзныя клопаты. Мы як Саюз вясковых гмін палічылі нядаўна, што трацiна гмін, а мо нават і палова ўжо сёння без аператыўнай надбаўкі. І складана будзе некаторым прыняць бюджэт, бо ў нас нельга ўхваліць бюджэту, калі даходы не роўныя бягучым выдаткам. Трацiна самаўрадаў ужо іх практычна не мае. Пра энергетычную самадастатковасць лягчэй гаварыць, чым зрабіць. Наша заканадаўства да гэтага прычыняецца. Бо наша цывілізацыйная адсталасць гэта не гістарычная адсталасць, гэта адсутнасць добрага права цягам апошніх 15 гадоў. Мы каля 10 млрд. злотаў прызначылі на г.зв. сустваранне, каб падтрымаць дзеючую сёння энергетыку. Сённяшняя энергетыка з'яўляецца вялікім марнатраўствам энергіі, бо эфектыўнасць вугальнай энергетыкі на ўзроўні 40%; 60% энергіі ўкідаецца ў раку, нават за Бэлхатавам у выкідных водах жывуць такія рыбы, якіх няма ў цэлай Віслe, беручы пад увагу цяплейшую на некалькі градусаў ваду. З тых 40% на перасыле трацім чарговыя 40%. І за ўсё гэта плаціць атрымальнік. А ўсё будуецца далей такія гігантаманскія блокі, якія цягам найбліжэйшых 50 гадоў будуць працаваць. То трэба задумацца, ці напэўна трэба нам гэта рабіць, бо за 50 гадоў нам свет уцячэ і будзем у зусім іншым месцы калі, не хочам канчаткова знішчыць гэтай планеты.

**Пётр СІНЯКОВІЧ**: — Энергетычная самадастатковасць гэта выраб гмінай столькі энергіі, колькі сама расходуе. Маем намер выбудаваць цеплаэлектрацэнтраль на біямасу, фотавальтаічную ферму, наш кластар у першай дзясятцы, атрымалі нават вылучэнне. Але без дадатковай падтрымкі звонку мы не ў стане гэта рабіць самі. Гэта будныя суб'екты, электрацэнтралі, але мусяць да гэтага далучыцца дзеянні паасобных жыхароў. І яны мусяць усведамляць, што трэба вырабляць электраток, каб было танней, бо гэта асноўнае, а гэта ўсведамленне крышку патрывае. Людзі павінны мець свядомасць, каб дбаць пра ўласнае асяроддзе, гэта толькі пачынаецца, тут патрэбная адукацыя. Павінна быць таксама вонкавая падтрымка, бо з уласных сродкаў ніводная такая меншая гміна не ў змозе нават у палове дайсці да энергетычнай самадастатковасці. У нас маем біягазавую ўстаноўку; са сцёкаў вырабляем ток, які прызначаем на ўласныя патрэбы, гэта 50-60 тысяч у месяц, а гэта дазваляе знізіць кошты прадукцыі вады і сцёкаў, чаго жыхары не ўсведамляюць. Маем таксама фотавальтаічную ферму. Маем *мэўку*, малую гідраэлектрастанцыю між двума вадасховішчамі. Маем таксама складзеную заяўку на ўсе будынкі грамадскага выкарыстання дзеля ўстанаўлення на іх фотавальтаікі.

**Кшыштаф ІВАНЮК**: — У Польшчы маем шэсць мільёнаў дамоў. Калі б на кожным даху быў адзін кілават, то не быў бы патрэбны некалькі электрастанцый. Я прыглядаўся, што робяць нашы заходнія суседзі — там ёсць узоры. Там згаральні не таму будуюць, што маюць праблемы з утылізацыяй адкідаў. Бо энергія, выраблена ў згаральнях, якія я бачыў у Рурскім басейне, у палове скарыстоўваецца на патрэбы таго завода, каб было чыстае паветра, якое будзе штораз важнейшае. Узнаўляльная энергія неабходная. Немцы даўно вылечыліся з незямляробчых біягазавых установак. Нашы нават буйныя земляробы не ў змозе справіцца з такою інвестыцыяй, бо нават у супольным вымярэнні гэта вельмі складаная ўстаноўка. Цяпер з сялян найбольш карыстаюць пасрэднікі. Адлегласны закон — не ведаю, чаму аж так рыгарыстычна абмежавана на сушы доступ да ветравых установак, якія з'яўляюцца найтаннейшай крыніцай энергіі. Усё падкрэслівалі, што трэба было б нейкія акумулятары. І зноў немцы — яны сёння адводзяць ток да акумулятараў у індывідуальных гаспадарках; магчыма, што ў іх сусед суседу будзе прадаваць электраток. У нас, калі хтось вырабляе больш, то тое прападае, калі не скарыстае для ўласных патрэб. Тое ж самае датычыць і самаўрадаў. Сёння мноства энергіі марнуем на кожным кроку, а абаграванне то гэта значна большая частка нашых выдаткаў, чым сама электрычнасць. Сёння не трэба будаваць гіганцкіх энергаблокаў, толькі трэба ўзорам немцаў не задумвацца як гэта зрабіць, толькі ствараць невялікія рассеяныя электрацэнтралі. Трэба заахвочваць людзей да абагравання дамоў, бо гэта галоўная задача мясцовых улад у Германіі. Каб адкіднoе цяпло не марнавалася. Гэта велізарны выклік. Замяж штомесячна даваць энергетычны дадатак да гаспадарак, то трэба дапамагаць так, каб як найбольш жыхароў будавала фотавальтаічныя ўстаноўкі. Не ідзе тут таксама толькі пра аграмадныя ветракі, бо могуць быць і ветракі меншыя, прыхатнія. Бо гэта ў інтарэсе нашых сялян, нашых жыхароў. Сёння цяжка ўявіць жыццё без электраэнергіі і акумулятары, як мяркую, будуць паступова штораз лепшыя і больш эфектыўныя. Гэта такія развязкі, якія ўжо сёння маглі б трапляць пад стрэхі. А мы сёння ўсё робім, каб замнога не зрабіць. Мы не маем кааператыўнай традыцыі, як гэта ёсць у Францыі. Былі гэесы, эскаэры, дзе не было так, што ўкладалі туды большыя грошы і яшчэ не пасварыліся. Тут бачу вялікую ролю мясцовага самакіравання, але павінны быць дэцэнтралізаваны экалагічныя фонды. Калі чыстае паветра будзе ствараца ў партнёрстве, а не ў фондах. Без падтрымкі гэтыя праекты ў нас не пройдуць, мы занадта бедныя.

**Пётр СІНЯКОВІЧ**: — Мы ў рамках Звязу гмін Белавежскай пушчы супольна негацыюем цэны энергіі, як купчая група. І я падумаў, чаму б не заахвоціць жыхароў, каб яны гуртаваліся, скажам па пяцьдзясят-сто чалавек, і мы, як самакіраванне, негацыявалі б ім такое паніжэнне цаны. Думаю, што такое ўдалося б. Аднак людзей цяжка пераканаць, яны таго не разумеюць, гэтая ідэя яшчэ да іх не даходзіць. Трэба было б заахвоціць больш людзей, адукаваць іх, каб яны мелі свядомасць.

Тэкст і фота **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)

www.e-zorka.pl

# зорка

для дзяцей і моладзі




# «Сунічкі» з Белавежы

Усе ведаем казку пра злую мачыху, якая загадала падчарцы назбіраць зімой суніц.

І дзіва — дзяўчынка справілася з лютай задачай. Дапамаглі ёй добрыя вятры і сябры. Казка старая. Можна сказаць, яна не надта зразумелая для нашых дзяцей. Сёння любыя лясныя плады — чарніцы, суніцы, журавіны, брусніцы ці ажыны можам купіць у любую пару года. Хопіць пайсці ў маркет ці на базар з гароднінай і садавінай.

Аднак не! Маці-прыроды так лёгка не ашукаеш! Суніцы — слова магічнае. Яны адразу выклікаюць у нас прысмак лета, свабоды, адпачынку. Яны спеюць разам з пачаткам канікул і гэта падбівае іх смак і ахвоту на жыццё...

Падобны прысмак сакавітага лета наклікаў канцэрт белавежскіх «Сунічак». Дзяўчаткі і хлопцы былі героямі чарговай беларускай вечарыны, якую школа і дом культуры зладзілі цёмным вечарам 12 лістапада г.г. у Белавежы.

Папраўдзе ўся вечарына прысвячалася беларускай песні. Апрача жывых спеваў дзяцей белавежцы паглядзелі цудоўны фільм Міколы Ваўранюка «Канцэрт жыцця». Героі фільма даказваюць, наколькі родная песня ажыццяўляе іх свет, наколькі яна мілая, прыгожая, лекавая. Такі пераказ важны для маладых спевакоў, каб будаваць матывацыю ў музычным развіцці.

— Гэта ўжо наступнае пакаленне «Сунічак», — кажа настаўніца Ангеліна Масальская. — Тыя старэйшыя ўжо закончылі навуку ў Белавежы. Яны раз’ехаліся па школах. А мы пакуль пачынаем. І трэба шмат працаваць, каб дагнаць папярэднікаў.

Малодшыя сябры не маюць лёгкай задачы. Іх старэйшыя сябры прыязджалі ў «Ніву» і паказалі, на што яны здольны. Іх чысты, жыццярадасны спеў захапіў усіх. Добра, што іх малодшыя пераймальнікі маюць ахвоту спяваць і выступаць на сцэне. Марк Зубрыцкі, мастацкі апякун гурта, верыць у моц Белавежы. Заняткі з вучнямі маюць падвойны поспех і самавіты працяг:



— Частка бацькоў нашых «Сунічак» прыйшла спяваць у «Ручаёк». Яны ўжо спелыя і паспяховыя спевакі. Ездзяць з канцэртамі. А ў канцы лістапада адзначаць сваё 10-годдзе.

Значыць, ёсць гісторыя. Настаўніца Ангеліна Масальская скажа яшчэ пра адзін поспех. Якраз яе вучаніца перайшла да раённага этапу ў прадметным конкурсе па беларускай мове. Праўда, такі ньюс не зробіць уражання ў бельскай «тройцы», але ў Белавежы гэта адважны выклік. Раней ніхто з вучняў не адважыўся прыняць удзел у прадметным конкурсе. Трэба было часу і многіх песень, каб засяродзіцца на граматыцы.

— Праца з песняй таксама складаная, — адзначае настаўніца, — дзецям трэба патлумачыць усе словы. Бо ёсць такія выпадкі, што і бацькі не разумеюць, пра што песня. Але калі ёсць ахвота, можна ўсё.

Выступленне «Сунічак», як у той казцы пра злую мачыху, адагнала ўсю восеньскую маркоту і заставіла марыць пра сонечныя канікулы. Тады, як вядома, даспяваюць сунічкі і ўсе хочуць імі захапляцца і ласавацца. Мова тут пра канцэрты і сяброўскія выступленні.

**ЗОРКА**

Фота Ганны Кандрацюк

**Эва БАРШЧЭЎСКАЯ**
Бандары, ПШ у Нараўцы

## Восень

Восень колерамі запляла зямлю.
Бушуюць жоўты і чырвоны.
Падаюць як дождж.
Дрэвы гэта ўжо не тыя
самыя формы, іншыя.
Розныя дрэвы, вялікія, маленькія,
але ваш узрост заўсёды знаюць.
Старэйшыя і малодшыя
ад збожжа
пазычаюць выгляд і глядзяць
у неба.
І сохнуць падобна.
Часам толькі садоўнік,
які ўвесь час клапаціўся,
незнарок адбярэ ім жыццё

## УВАГА КОНКУРС!

## № 47-19

Стаіць Рыгор сярод гор, палкай падпёрся, капелюшом накрыўся ды галавы забыўся. Г...

## Загадкі з роднай хаткі

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку” да 8 снежня 2019 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на загадку № 43: (Укінь камень у ваду. Які ён будзе — мокры). Узнагароды — каляндарыкі на 2020 год, выйгралі Аліўка Порац, Оля Кардаш з Нарвы, Эмілька Калодка, Матэвуш Панькоўскі з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку, Магда Якубюк з Бельска-Падляшскага. Віншуем!



# Кажан!

## Ой, як цудоўна...

Сёння прапануем вам размаляваць «беларускага» кажана, прыдуманага мастачкай Аленай Шамаковай як антыстрэс для малых і дарослых.

Кажаны — магічныя жывінкі.

Сярод нас жывуць 19 відаў кажаноў. Адзін з самых вялікіх — рыжая вячэрніца. Памеры дарослай асобіны дасягаюць 64-82 міліметраў — некалькі такіх мышак цалкам змесцяцца на далоні. Кажаноў адносяць як і чалавека да млекакормячых, да атраду рукакрылых, прытым яны адзіныя з класа маюць здольнасці да палётаў. І, як птушкі, некаторыя віды кажаноў перад наступленнем халадоў адлятаюць у паўднёвыя краіны.

Звычайна «пачуем» іх у канцы чэрвеня, калі нараджаюцца маленькія мышкі і піскам абвяшчаюць свой прыход на свет. У іншыя паравіны года іх не чуваць. Яны кантактуюць з дапамогай гукаў, нячутных для людзей. Затое ў зіму можам іх пабачыць як у стане гібернацыі, падчэплены за столь, дрэмлюць. Кажаны любяць засынаць у каменных скляпах, пустацінах, на гарышчы, а таксама ў шчылінах блёкаў-шматпавярховікаў, якія напамінаюць ім адтуліны скалак і каменных гор. Людзі несправядліва кляймуюць кажаноў. Кажуць — яны вампіры! Гэта глупства і стэрэатып. Кажаны — характэрныя для нашай кліматычнай сферы, харчуюцца насякомымі, ахвотна з'ядаюць камароў ды ўсякую мошку. Яны зусім бяскрыўдныя. І пажаданыя!

Аднак калі да вас у госці заляціць кажан, адчыніце наўсцяж вокны — хай ён вылеціць. Калі заляцеў днём, дайце дачакацца вечара і ён самастойна знойдзе выхад. Нельга яго лавіць, дакранацца, пужаць. Жывінка надта адмоўна рэагуе на ўсякую агрэсію і крык. Кажаноў не трэба баяцца, асабліва маладым людзям. Паводле беларускіх павер'яў: Пабачыць кажана — чакаць надыходу кахання!

**(гак)**

# Міфы

## старажытных беларусаў

Я ўсё думаю пра падарунак, якія атрымала ў Асцёры. Гэта была палатняная лялька з загадкавым клункам. У мяшэчку, — ці вы паверыце? — знаходзілася ЗЯМЛЯ! Усё гэта заставіла вярнуцца да вытокаў культуры. Такі старажытны талісман давалі ў дарогу падарожнікам, каб яны шчасліва вярнуліся дамоў.

Асцёр — старажытнае мястэчка на сутоках рэчак Дзясна і Асцёр на Чарнігаўшчыне. Тут захаваўся фрагмент царквы XI стагоддзя. У мясцовай школе, дзе мела я гонар выступаць разам з рэдакцыйнай сяброўкай Мірай Лукшай, вучні з энтузіязмам успрымалі літаратурныя чытанні. Ды не адны вучні захапіліся літаратурай! Тут мы пазнаёміліся са студэнткай-валанцёркай з ЗША. Амерыканка падышла да нас і спытала як стаць пісьменніцай. У старажытным Асцёры, як нідзе на свеце, любяць узляцець па-над штодзённыя справы. Да гэтага скланяе старажытны дух зямлі, які нашэптвае прызабытыя спрадвечныя напевы.

Нашы продкі лічылі, што ўсё жыццё — з зямлі. Пра маці-зямлю будзе наш чарговы адрэзак, адрэдагаваны паводле кніжкі Алены Коршак «Беларуская міфалогія для дзяцей». У публікацыі мы прывядзем (па меры магчымасцей) прыклады з роднага Падляшша.

### Зямля

Нашы продкі верылі, што зямля — маці ўсяго жывога, у тым ліку чалавека. Людзі казалі пра зямлю, што яна круглая, як шпачынае яйка. Казалі, што яна стаіць на вадзе, а ўсярэдзіне ўвесь час гарыць агонь.

Звычайна, зямлю лічылі істотай жаночага полу. Лічылі, што яна апладняецца жыватворным дажджом і дае ўраджай. Да зямлі–карміцелькі ставіліся чула і асцярожна. Яе нельга было біць калом ці бізуном, калупаць нагамі і чапаць у перыяд зімовага сну.

Шмат павер'яў звязаных з падарожнікамі. Каб хлопец жывым і здаровым вярнуўся з войска, падчас праводаў ён каля парога пакідаў выразны адбітак босай ступні. Маці збірала зямлю ад следу ў чыстую хустачку, завязвала на два вузлы, несла ў хату ды захоўвала ў чырвоным куце, за іконамі. Клунак ляжаў там да вяртання хлопца з войска. Калі ваяка доўга не вяртаўся з войска, па гэтай зямлі варажылі ці ён астаўся ў жывых. Гэты старажытны славянскі абрад запісаны ў вайсковай падляшскай песні «Ішлі ляхі на тры трахі...»:

*Возмі маті*
*зэмлі жмэню*
*высып еі на камэні*
*як той камэнь*
*зэрном зыйдэ*
*тоды сын твуой*
*з вуойска прыйдэ...*

Нашы продкі верылі ў карачую моц зямлі. Шмат на Падляшшы легенд пра заваленыя, падзямельныя цэрквы. Іх, часта з грэшным народам, за кару праглынула зямля. Пра жудаснае здарэнне напамінаюць званы, якія б'юць з-пад зямлі ў Вялікдзень.

**(гак)**

# Польска-беларуская крыжаванка № 47-19

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 43-2019:**

Восень, ляк, вушка, пас, птушка, палоска, шар, тамат, арак, семінар, Ала, Эміль. Пашана, мяжа, справа, дупло, што, сем, куст, Мі, свашка, іл, камень, неба, стары.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Габрыела Краснапольская, Алекс Лушчынскі, Януш Чарнецкі** з Нараўкі, **Кацпар Ваўранюк** з Бельска-Падляшскага, **Тамаш Васілюк, Лукаш Хіліманюк, Дамініка Каліцкая** з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку.

Віншуем!

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Rubryka | Piosenka | | Jasiek | Zmiana / Wóz | | | | Mit | | | |
| | | | | | Kminek | Wieża | | Mak / Taniec | | | Ar |
| | Liczba | | | Kwiat / Znak | | | | | | | Iran |
| | | | Zmiana / Sto | | | | | | | | Jana |
| | Śmietana | Grudzień | | | | | | | | Jan | |
| | | | | | | | | | Jan | | |
| | Kok | | | | | Scena | | | | | |

Частка 6

# Генетычны алфавіт



## 4. Тайны план Пентагона

А акурат у гэты самы час да ўладальніка шклянкі з „Джэкам Дэніэлсам" у яго вашынгтонскі офіс са спрытам напалоханага кенгуру заскочыў рухавы чалавек з папкай у руках. Апрануты ён быў у надзвычай дарагі цёмна-сіні гарнітур, белую кашулю і жоўты гальштук. Абуты ў начышчаныя да ззяння туфлі амерыканскай вытворчасці.

— Прывітанне, Джэк, — махнуў ён рукой і, не пытаючыся гаспадара, усеўся насупраць спецслужбоўца. — Якая пякельная спёка, нібыта мы ўжо высадзіліся на Венеры. Ты ведаеш, па апошніх дадзеных навукі, там і ёсць пекла. Градусаў пяцьсот там паліць. А нашы сіноптыкі і без Венеры ў дзікай разгубленасці, як брыдкая дзеўка перад люстэркам. Не маглі і блізка прадбачыць, што такая спёка можа быць і на нашай планеце.

Джэк толькі скрывіўся. Што пляце гэты чалавек? Якая Венера? І пра спёку! Кіраўнік спецслужбы ад тае спёкі ўжо і так амаль ні пра што не мог думаць, акрамя як пра кавалачкі халоднага асвяжальнага лёду, якія велічна плавалі ў шырокай шклянцы, напоўненай віскі.

— А ў Маскве, кажуць, дождж, — працягваў трашчаць чалавек з неверагодна белымі зубамі. (Але ж і белыя зубы ён сабе надыбаў недзе! І туфлі такія ж бліскучыя, хоць і чорныя.) — Не магу паверыць! Як гэта так атрымліваецца: там дождж, а тут спёка?

— У Маскве яшчэ і ноч, — падняў палец угору спецслужбовец.

— Не жартуй, Джэк, я на гэта не куплюся, — засмяяўся госць.

— Вітаю, Джорж. І не купляйся. Гэта нічога не мяняе: купішся ты ці прадасіся, — засмяяўся і гаспадар. — Усе некалі прадаюцца і купляюцца. Усе і ўсё. Гэта я, як разведчык, сцвярджаю. А ты, як палітык, таксама пра тое ведаеш не менш мяне. Палітыкі і шпіёны — самыя вялікія здраднікі, бо толькі яны ведаюць усю карысць ад здрады яшчэ на пачатку сваёй кар'еры. Па статыстыцы сярод нас у некалькі разоў больш здраднікаў, чым сярод тых катэгорый людзей, за якімі мы сочым, каб яны не здрадзілі той краіне, якой вымушаныя выплачваць падаткі толькі з-за факта нараджэння ў ёй. А пра надвор'е трэба пытаць не ў сіноптыкаў, а ў разведкі. Мы-то пра спёку ведалі даўно. Віскі? — прапанаваў. — Я частую.

— О не, — адмовіўся Джордж, бліснуўшы белымі, як паўночны снег, зубамі, у якіх адразу адлюстраваліся яго туфлі, а ў туфлях адлюстраваліся зубы, у якіх адлюстраваліся туфлі. Раскрыў папку. Дастаў паперы і дзелавіта расклаў іх на стале. — Да справы, прыяцель.

— Дарэмна, — усміхнуўся Джэк, усеўся на крэсла, паставіў шклянку з віскі на мапу на стале вельмі блізка да Беларусі. Пасля крыху за ёй, недзе за Смаленскам, закінуў свае ногі на стол і дастаў тоўстую цыгару. — Я не пра віскі сказаў „дарэмна", а пра тваю адмову яго ўзяць. Ты стаў сведкам маёй бязмежнай шчодрасці і не ацаніў гэтага. Ну, але не маю нічога супраць, каб перайсці да справы. А ты файна выглядаеш, Джордж, як новенькая стадаляравая купюра. Ну і чым мяне парадуе сёння прастаўнік Дзяржаўнага дэпартамента ЗША?

— Парадую, Джэк. Дзяржэпартамент робіць стаўку на твайго супершпіёна. У мяне да цябе толькі некалькі пытанняў. Чаму аперацыя праводзіцца ў Мінску? І нават у ваколіцах Мінска? СССР такі вялікі, а ты выбраў Мінск. На тое мусіць быць прычына.

Разведчык адкінуўся на крэсле і пусціў густы дым у столь. Яму было сумна размаўляць з гэтым недасведчаным у справах разведкі маладым суразмоўцам. Сумна, як есці без выпіўкі. Стары разведчык апошнім часам мог без суму размаўляць выключна сам з сабой. Ну, і яшчэ з „Джэкам Дэніэлсам", канешне. Інтэлект іншых не выклікаў у яго захаплення.

— О, Джордж! — спецслужбовец гэтым разам выдыхнуў водар цыгарэтнага дыму ў бок суразмоўцы. — Павер інтуіцыі старога разведчыка. Гэтыя беларусы — цудоўныя людзі. Яны любяць усіх. І чужакоў таксама. Нават шпіёнаў любяць. Нават чужых. І калі раптам адчуюць, што гэты нованароджаны дзіцёнак не іхні, а нейкі чужак, і ў дадатак шпіён, то яны яго ўсё адно не кінуць. Ды і пра будучага нованароджанага агента варта падумаць. Паразважай сам. Мы ж укараняем саветам амерыканскага разведчыка. Амерыканскага! Беларусь — адзіная рэспубліка, куды яго не шкада закінуць. У іншыя рэспублікі і старых дасведчаных шпіёнаў засылаць душа баліць. Памятаеш Старога Тома?

— Ну, так, хто ж не ведае Старога Тома, — Джордж таксама закінуў ногі на стол.

Толькі яму, спрытнаму, спартоваму, падцягнутаму і маладому ўсё адно гэты чыста амерыканскі рух не ўдаваўся зрабіць так элегантна, як таўставатаму і ўжо даўно не маладому, і тым больш не спартыўнаму Джэку. Ногі на стале ляжалі неяк ненатуральна, не пасавалі ні да стала, ні да іншых дэталяў інтэр'ера, ні да самога гаспадара тых ног. Прыходзілася напружваць мышцы, каб яны не слізгаліся па краі стала ў левы бок, ад чаго і мышцы твару былі крыху напружанымі і перашкаджалі засяродзіцца на размове.

Іншая справа Джэк! Яго ногі ляжалі на стале настолькі па-амерыканску натуральна, што здавалася, нават калі ён устане і пойдзе адсюль, ногі ўсё адно будуць ляжаць на стале, на мапе Савецкага Саюза недзе за Смаленскам.

— І што з ім сталася, са Старым Томам? — пацікавіўся Джордж, пасля таго як адной нагой удалося зафіксаваць другую і яны абедзве нарэшце спынілі рух улева ад іх гаспадара.

— Яго закінулі ў цэнтральныя раёны Савецкага Саюза. Там з ежы толькі цыгарэты ды гнілая кілька ў кансервах. Яго дызентэрыя прабрала ў першы ж дзень выканання важнейшага задання. І больш не адпускала цягам усяго тэрміну нашай сакрэтнай аперацыі. А аперацыя тады, як памятаеш, была доўгай, як палярная ноч. Ён спаражняўся далей, чым бачыў. Усё наваколле загадзіў. А прырода там вой якая прыгожая была да гэтага моманту. Можна сказаць, што ўсе выдзеленыя грошы на аперацыю ён... Ну, сам разумееш, ён іх...

— Спусціў ва ўнітаз, — дапамог госць падабраць гаспадару кабінета больш літаратурнае параўнанне, чым тое, якое той ужо збіраўся агучыць.

— Ды там і ўнітазаў то няма. Адным словам, Стары Том аніякай настальгіі па тым месцы не выказвае. А ў Беларусі, па нашых даных, даволі спрыяльныя ўмовы. Раптам бы здарыўся цуд і развалiўся б Савецкі Саюз, то з усіх рэспублік беларусы мелі б самыя лепшыя эканамічныя перспектывы. На жаль, вы там, у Белым доме, думаеце, што гэта немажліва. Развал СССР — справа немагчымая? — спытаўся спецслужбовец, гледзячы суразмоўцу ў вочы, як грымучая змяя перад атакай.

Колькі стары разведчык даказваў прадстаўнікам палітычнай эліты, што развалiць можна ўсё што заўгодна, нават Вавілонскую вежу і Вялікую Кітайскую сцяну. Ну, а Савецкі Саюз ён лічыў куды больш слабай і часовай канструкцыяй, чым тая сцяна. Толькі вашынгтонскія палітыкі яго слухаць не хацелі, як усё роўна іх вушы былі наглуха заткнутыя міжкантынентальнымі крылатымі ракетамі. Тымі самымі ракетамі, якія нібыта мусілі забяспечыць ядзерны баланс абодвух бакоў, што тэарэтычна і было гарантам бяспекі. Джэк адказваў узаемнасцю прадстаўнікам тых палітычных эліт за іх абыякавасць да яго прапаноў і не хацеў за тое іх не толькі чуць, як яны яго, але яшчэ і не бачыць. За рэдкім выключэннем, калі без іх не абысціся, як зараз.

— На жаль, гэта немажліва, — адказаў работнік Дзяржэпартамента ЗША Джэку на яго вострае, як індзейскі нож, пытанне. — Вось таму, Джэк, мы і не фінансуем гэтых абсурдных праектаў па развале СССР, што гэта немажліва зрабіць. Бо гэта — як укусіць свой жа локаць. Гэта — як скочыць вышэй за сваю галаву.

— Гэта можна зрабіць, калі скакаць азадкам уверх, — аспрэчыў словы Джорджа дасведчаны разведчык. — Галава тады застанецца знізу, а ты скачаш вышэй за яе. Хочаш, пакажу — сказаў.

— Ну, але хто так скача, — развёў той рукамі. — На галаву тады прызямлішся. А ты, бывае, крыўдуеш, як мы паганай мяцёлкай адмятаем тваё абсурдныя прапановы па развале СССР. Гэта немажліва, той развал, як стварэнне вечнага рухавіка. Патэнтныя агенцтвы перасталі прымаць гэтыя ідэі пра перпетуум мобіле нават для разгляду. І мы перасталі пра развал Савецкага Саюза прымаць прапановы. Больш нам не падсоўвай такіх праектаў, Джэк! Мы іх не падтрымаем! Савецкі Саюз разваліць немажліва.

— Чаму?

— А вось таму, што немажліва! Табе гэта не зразумець. Не трэба мроіць пра немажлівае. Таму трэба шукаць моманты сутыкнення агульных інтарэсаў, ісці на палітычны кампраміс, гандлявацца... Табе, як закаранеламу ваяку і ястрабу, гэтая тонкая інтэлектуальная гульня незразумелая. Вось і не лезь не ў сваё. Хай гэтым разумныя людзі з Дзяржэпартамента займаюцца. І Белы дом. А вось твайго шпіёна прафінансуем. Шпіёны — гэта тое, што трэба. А палітыка — гэта мастацтва мажлівага.

— Вось толькі мастакі крывалапыя!

Джорж пасля гэтых слоў Джэка крыва ўсміхнуўся, нібыта ўзгадаў смак лімона. Гэтым словам „крывалапыя" яго і іншых супрацоўнікаў Дзяржэпартамента на мінулым тыдні назвалі мітынгоўшчыкі-пацыфісты, якія насупраць офіса газеты „Вашынгтон пост" ладзілі акцыю супраць вайны ў В'етнаме. Перад тымі валасатымі панкамі Джордж то не лічыў патрэбным вытлумачвацца. Іншая справа Джэк. Гэты так проста хватку не аслабіць. А хватка ў яго мацнейшая, чым у пітона. Крыху памаўчаўшы, ён патлумачыў сваю пазіцыю:

— Я, бывае, думаю, Джэк, што мы і саветы вельмі патрэбныя адзін другому. Яны што прыдумаюць сакрэтнага, а нашы шпіёны ўкрадуць, мы што прыдумаем, іх шпіёны ўкрадуць. Такім натуральным чынам і ажыццяўляецца прагрэс. Дыпламаты сустракаюцца, высвятляюць, хто каго больш абдурыў. Газеты пішуць, тэлебачанне паказвае... Усе пры справах. А не было б гэтага, ці ж стараліся б яны што прыдумваць? Каб пляснуць у далоні, трэба абедзве рукі.

— Можа і дзве трэба, але не абедзве левыя, як у вас, палітыкаў Дзяржэпартамента. Такімі лапамі толькі хабар добра браць у тых, хто цябе вярбуе. Цябе калі-небудзь вербавалі, Джордж?

У офісе стала ціха, як у сакрэтным сейфе, закапаным пад зямлю на дзесяць метраў углыб. Нават вентылятары стараліся не шумець.

Джордж насцярожыўся і адкінуўся ў крэсле назад. Джэк таксама насцярожыўся і максімальна, наколькі яму дазваляў тоўсты жывот і закінутыя на стол ногі, нахіліўся ўперад. Сонца заставалася нерухомым, але здавалася яшчэ больш завісла. Пульс зачасціў у абодвух. Артэрыяльны ціск падняўся да крытычнага стану. А вось на невыносную спёку гэтая сцэна абсалютна не паўплывала.

— А чаму пытаеш? — нарэшце неахвотна сказаў Джордж, накінуўшы на твар лёгкую, як цень шпіёна, усмешку.

— А таму, што наш супершпіён у хуткім часе ўжо будзе ў Беларусі, і ты пра гэта ведаеш. Мала хто пра гэта ведае. І калі што, я буду знаць, то на каго думаць?

— Ты што?! Як ты можаш думаць на мяне!

— Магу! Мае інфарматары ў Маскве мне далажылі, што саветы ўжо тое-сёе ведаюць пра нашу аперацыю. Адкуль уцечка інфармацыі? Хто шчур? Пад пагрозай жыццё майго агента. А я сваіх людзей берагу. Можа, я яго шкадую. Ты дапускаеш такое, Джордж, што я кагосьці магу шкадаваць?

— Я таксама, Джэк. Але хопіць сентыментальнічаць! Наша работа прадугледжвае страты. Такі наш лёс, Джэк. Цяжкі лёс, я згодны. Але наш. Гэта місія. І калі ты занадта сентыментальны або застары ўжо для гэтага, то пішы рапарт і валі ў сваю Мантану!

Гэта была памылка маладога палітыка. Памылка, падобная на памылку сапёра, які, як вядома, памыляецца толькі раз. Стары разведчык нікому так не дазваляў з сабой размаўляць. Апошні раз так зняважліва пра кіраўніка спецслужбы неяк выказаўся, не падумаўшы пра наступствы, былы кіраўнік аднаго наркакартэля з Лацінскай Амерыкі. З якой краіны, дакладна невядома, бо засакрэчана. Ну то праз тыдзень таго знайшлі ў каналізацыйнай трубе. Хто, і, галоўнае, якім чынам яго туды запхнуў, застаецца загадкай. Бо з унітаза яго засакрэчанай фазэнды з узмоцненай аховай тырчалі толькі ногі сусветна вядомага гандляра наркотыкамі. Галаву ж знайшлі зусім у іншым унітазе і зусім на іншай засакрэчанай фазэндзе, і нават на іншым кантыненце. Тады гэтую недарэчнасць сусветная прэса спісала на жорсткасць і бесчалавечнасць разборак наркагандляроў між сабой. Гэтай версіі прытрымліваліся і ў Дзяржэпартаменце ЗША. І толькі стары разведчык на іх пасяджэннях не выпусціў са сваіх вуснаў ні слова. Толькі дым цыгарэты выпусціў. І то дазіравана. І ціха ўсміхаўся ды зрэдку пазяхаў.

(працяг будзе)

Віктар САЗОНАЎ

# Маркі слуцкіх паўстанцаў

Яны памерлі, каб жыла Бацькаўшчына
— жывеце вы, каб Бацькаўшчына не памерла!

*Надпіс з марачнага аркуша*

**Лявон КАРПОВІЧ**

*27 лістапада 1920 году распачаўся Слуцкі Збройны Чын.*

*Некалькі тысяч паўстанцаў на працягу месяца давалі адпор бальшавіцкай навале. Апошнія атрады сышлі з поля бітвы толькі ў студзені 1921 году. Партызанскія атрады прадаўжалі змаганне яшчэ некалькі гадоў.*

*Свая Рэспубліка нараджалася ў крывавых муках, але наш беларускі родны дух, які тады ажыў, не згасаў. На поле бітвы ў след за случакамі выходзілі наступныя пакаленні змагароў за Беларусь.*

*27 лістапада — іхны дзень: Дзень Герояў. Таму і заклікаем усіх, хто носіць імя беларуса, годна святкаваць гэты Дзень, успамінаць нашых Герояў і штогод ставіць у акне свечку. Няхай яе агеньчык сігналіць Змагарам, што ў гэтай хаце помняць іх Чын*[1].

Рада Случчыны праіснавала ад 15 лістапада 1920 г. да 20 студзеня 1921 г. Пра слуцкія маркі філатэлісты ведалі даўно. Пра іх пісалі розныя выданні Польшчы, ЗША, у апошні час і Беларусі.

Упершыню слуцкія маркі з'явіліся ў нашай краіне дзякуючы намаганням вядомага беларускага філатэліста Льва Коласава яшчэ ў канцы 1990-х гг. (набытыя ў Польшчы).

*На жаль, гісторыкі, якія вывучаюць і апісваюць у апошнія гады тыя падзеі, факт існавання марак Надзвычайнай рады Случчыны не пацвердзілі ці ўпусцілі (адсутнасць дакументаў), — пісаў Леў Коласаў. — Беларускім філатэлістам (ва ўсякім разе многім з іх) факт існавання гэтых марак быў проста невядомы. Хаця ў філатэлістычным свеце пра гэтыя маркі вядома даўно. У 1921 годзе ў часопісе „Polski Filatelista" быў змешчаны артыкул аб слуцкім выпуску, а ў 1935 годзе аб гэтым выданні паведамлялася ў манаграфіі „Польскія паштовыя знакі" („Polskie znaczki pocztowe").*


Sluck

[illegible]

Запіс у выданні „Polskie znaczki pocztowe" 1935 г.[2]

*У пасляваенны перыяд у 1966 годзе гэтая манаграфія была выдадзена зноў у дапоўненым і ўдакладненым выглядзе. У IV томе „ПЗП" у раздзеле „Varia" („Living") пра слуцкі выпуск паведамлялася тое ж самае, што і ў 1935 годзе*[3].


SLUCK

[illegible]

Запіс у выданні „Polskie znaczki pocztowe" 1966 г.[4]

З архіўных дакументаў Беларускай Народнай Рэспублікі вынікае, што маркі былі выпушчаны 1 снежня 1920 г. Паводле ўспамінаў сябраў Рады, штаб брыгады, як і сама Рада Случчыны, знаходзіўся ў гэты час у вёсцы Грыцэвічы Слуцкага павета (да 15 снежня). Валянцін Бацеўскі зрабіў выснову: гэты населены пункт і стаў месцам выпуску марак. Ён таксама супаставіў розныя дакументы, успаміны ўдзельнікаў падзей і даказаў, што з усіх сябраў Рады Случчыны, якая складалася з 17 чалавек, да іх выпуску маглі мець дачыненне толькі Васіль Русак і Юры Лістапад. З розных прычын Юры Лістапад 1 снежня быў у ад'ездзе, а Васіль Русак хварэў і бязвыезна знаходзіўся ў Грыцэвічах. У яго, на думку Бацеўскага, было дастаткова часу, каб вырабіць гумовы штэмпель наддрукоўкі і паставіць яго на наяўныя ў яго польскія стандартныя маркі выпуску 1919 года[5].

Лічыцца, што ўсяго было надрукавана 200 слуцкіх марак коштам 50 грошаў і каля 20 асобнікаў наміналам 25 грошаў. Тыя ж архіўныя дакументы паведамляюць, што на 1921 г. іх засталося толькі тры камплекты, астатнія згарэлі. Валянцін Бацеўскі пісаў, што мэтай выпуску марак, паводле сведчання аднаго з сябраў Рады Случчыны, была аплата дастаўкі лістоў адрасатам у межах Слуцкага павета. На жаль, да гэтага часу не знойдзена якіх-небудзь дакументаў, што пацвярджаюць выкарыстанне гэтых марак з паштовымі мэтамі на Случчыне[6].

Тым не менш, можна сцвярджаць, што падчас Слуцкага збройнага чыну 1 снежня 1920 г. штабам Беларускай слуцкай брыгады для сваіх паштовых патрэб былі выкарыстаны польскія маркі, на якіх была зроблена ручная наддрукоўка наміналу, Пагоні і літар „Ч. Р. Сл." (Часовая Рада Случчыны).



Ручная наддрукоўка тып 1 і тып 2 на польскіх паштовых марках 1919 г.

Наддрукоўка тып 1:
- 25/5 h — светла-зялёная, наддрукоўка цёмна-фіялетавая
- 50/10 h — памаранчавая, наддрукоўка чорная
- 50/10 h — чырвоная, наддрукоўка цёмна-фіялетавая
- 50/15 f — ружовая, наддрукоўка фіялетавая
- 50/15 f — чырвоная, наддрукоўка чорная[7].

Наддрукоўка тып 2



Вядомыя шматлікія варыянты марак і тыпу 1, і тыпу 2.



Варыянты марак тыпу 1 і 2.

На польскім сайце http://stamps-pl.com прадавалася паштоўка з гашанымі маркамі Слуцкага паўстання, дасланая з Баранавіч у Варшаву. Кошт яе складаў 7500 злотых.



Паштоўка з гашанымі маркамі Слуцкага паўстання.

Дасюль былі вядомыя толькі два паштовыя адпраўленні з маркамі Рады Случчыны:

1. Паштовая картка Баранавічы — Вільня ад 21 студзеня 1921 г. (2 маркі агулам на 75 грошаў ці па польскім намінале 20 грошаў).
2. Заказны ліст Баранавічы — Лейпцыг ад 23 студзеня 1921 г. (4 польскія маркі і 2 слуцкія з наддрукоўкаю на 75 грошаў; тут яны прысутнічаюць у выглядзе дадатковых налепак)[8].




Заказны ліст Баранавічы—Лейпцыг ад 23 студзеня 1921 г. (4 польскія маркі і 2 слуцкія з наддрукоўкаю на 75 грошаў; тут яны прысутнічаюць у выглядзе дадатковых налепак).

На пачатку 1990-х гг. у Чыкага філатэлістам Багданам Павуком быў выдадзены каталог „Беларусь", дзе змешчана інфармацыя пра слуцкія маркі[9].



Слуцкія маркі ў каталогу Багдана Павука.

І ў польскіх выданнях, і ў каталогу Б. Павука наддрукоўка „Ч. Р. Сл." расшыфроўваецца як *Надзвычайная Рада Случчыны* (*Nadzwyczajna, Chrezwychajna Rada Slucchyny*), што недакладна. Правільна: *Часовая Рада Случчыны*, што адпавядае надпісу на пячатцы Рады[10].




Пячатка „Часовая Рада Случчыны"

Слуцкія маркі — сведкі і ўдзельнікі падзей Слуцкага збройнага чыну — павінны заняць пачэснае месца сярод першых беларускіх марак.

Рыхтуючыся да 40-х угодкаў Слуцкага паўстання, што прыпадалі на лістапад 1960 г., Згуртаванне беларускае моладзі Амерыкі выдала адмысловыя юбілейныя маркі. Яны былі надрукаваны ў чатырох колерах: чырвоным, сінім, зялёным і шэрым.




Юбілейныя маркі, прысвечаныя 40-м угодкам Слуцкага паўстання, выдадзеныя ЗБМА ў 1960 г.

☞10

9 ☞ працяг

# Маркі слуцкіх паўстанцаў

Малюнак і кампазіцыя маркі выкананыя мастаком Генрыкам Архацкім. Цэнтр займае постаць дзецюка з узнятым угору беларускім нацыянальным сцягам з надпісам на ім: *Тым, што пайшлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына*. Дрэўка сцяга мае форму паходні, на полымі якой (угары над сцягам) надпіс па-ангелійску: „Слуцкае Паўстанне 1920—1960" (*The Slucak Uprising 1920-1960*). Пад сцягам (ніжні правы рог маркі), рассякаючы змрок няволі, выгравіраваны кліч (таксама па-англійску): „Волю Беларусі!" (*Freedom for Byelorussia*). У левым ніжнім куце — літары „БНР".

Маркі выдадзеныя на аркушах па дваццаць штук. Аркуш пачынаецца гэткім тэкстам (па-беларуску і па-англійску: *Яны памерлі, каб жыла Бацькаўшчына — жывеце вы, каб Бацькаўшчына не памерла! Памажэце замацаваць гісторыю Слуцкага Паўстання — злажэце ахвяру на выданне Слуцкага Альманаху. Наклейвайце гэтыя маркі на лістах і пачках — пашырайце праўду аб Беларусі.* І тут жа назва ды адрас арганізацыі: *Byelorussian Youth Association of America, 401 Atlantic Avenue, Brooklyn 17, N. Y.*




Аркуш юбілейных марак, прысвечаных 40-м угодкам Слуцкага паўстання

У пятым нумары часопіса „Беларуская Моладзь" (студзень-сакавік 1960 г.) кіраўніцтва ЗБМА звярнулася да беларускае моладзі на эміграцыі з заклікам памагчы распаўсюдзіць гэтыя маркі сярод сваіх і чужынцаў. Тут чытаем:

*Помнік слуцкім паўстанцам... На прапанову і просьбу Згуртавання Беларускае Моладзі Амерыкі на святкаванні 39-х угодкаў Слуцкага Паўстання ў Нью-Йорку час ад лістапада 1959 году да снежня 1960 году быў абвешчаны Годам Слуцкага Паўстання... ЗБМА, падтрымваючы свае словы канкрэтнай справай, выдала юбілейныя маркі да 40-х угодкаў Слуцкага Паўстання. Галоўнае кіраўніцтва Згуртавання заклікае ўсю беларускую моладзь вольнага свету ўзяць на сябе адказнасць за распаўсюджанне гэтых марак сярод сваіх суродзічаў і сярод чужынцаў. За здабытыя пры гэтым грошы ЗБМА плануе выдаць Слуцкі Альманах, у якім будзе змешчана ўсё, што ёсць у нашай літаратуры, мастацтве і музыцы пра Слуцкае Паўстанне. Гэта будзе найлепшы і найтрывалейшы помнік Беларускім Героям, якія не пашкадавалі жыцця свайго ў імя лепшае будучыні Беларусі.*

*Няхай-жа беларуская моладзь вольнага свету станецца будаўніком помніка Слуцкім Паўстанцам!*[12]

❖ **Лявон КАРПОВІЧ**

1 *Зварот з нагоды ўгодкаў Слуцкага збройнага чыну*, http://represii-by.info/index.php?newsid=915.
2 Л. Коласаў, *Таямніца Слуцкіх марак*, «Беларускі калекцыянер», 1999, № 19, с. 3
3 Л. Коласаў, *Тайна слуцкіх марак*, http://www.slutsk-city.narod.ru/marki.html
4 Там жа.
5 У. Іваноў, *Загадкі слуцкіх марак*, http://www.arche.by/by/page/science/10274.
6 Там жа.
7 Маркі „Временной Рады Слутчины", http://bsfil.narod.ru/by/s/1918-1922/1918-1922.html.
8 *Маркі Слуцкага паўстання?*, http://antique-belarus.livejournal.com/6418.html.
9 B. Pauk, *Belarus. A catalog-checklist of national and lokal postage stamp issues, foreign administrative issues of 1916-1920 and 1941-1944*, Westchester (Illinois), 1996, p. 33.
10 Л. Коласаў, *Таямніца Слуцкіх марак...*
11 B. Pauk, *Belarus. A catalog-checklist...*
12 Я. Запруднік, *Маркі да 40-годзьдзя Слуцкага паўстаньня*, «Бацькаўшчына», 1960, № 15 (499), с. 4.




# http://lstr.by

Узніклая пяць гадоў таму пасля рэвалюцыйных узрушэнняў на Украіне вышыванчая мода дагэтуль не праходзіць. Больш таго, за гэты час з'явілася цэлая індустрыя, прынамсі ў Беларусі, якая скіравана на выраб адзення нацыянальнаарыентаванай тэматыкі. Таму сёння можна пабачыць намаляваныя фрагменты беларускага арнаменту не толькі на кашулях ці спадніцах, але і на шкарпэтках і пальчатках. Зразумела, што ў даным выпадку попыт стварыў прапанову, а кемлівыя камерсанты спрытна зарыентаваліся ў інтарэсах патэнцыйных кліентаў.

Адным з такіх удалых бізнесаў можна лічыць LSTR Adzieńnie, сайт якога месціцца па адрасе **https://lstr.by.** Галоўнай старонка сайта выглядае як нейкі фотарасповед з фестывалю моды. Мы бачым хлопцаў і дзяўчат, апранутых у сучаснае адзенне, аздобленае цікавымі малюнкамі, сярод якіх сустракаюцца нацыянальныя беларускія матывы. Насамрэч, гэтыя фотаздымкі з'яўляюцца своеасаблівай вітрынай інтэрнэт-магазіна фірмы. Таму на сайце можна не толькі выбраць, але і замовіць сабе пакупку, аплаціўшы яе адным з прапанаваных спосабам — банкаўскай карткай, наяўнымі ці пералічэннем з аднаго рахунку на іншы.

Уверсе галоўнай старонкі знаходзяцца выйсці на рубрыкі сайту. Яныназначаны тэматычна — мужчынскае, жаночае і дзіцячае адзенне, аксесуары, новыя вырабы.

Паводле размешчанай унізе цэлага выяўлення інфармацыі, інтэрнэт-крама належыць індывідуальнаму прадпрымальніку Раману Ладуцьку. Праўда, згодна сайту https://probusiness.io, стваральнікам маладзёвага брэнду LSTR Adzieńnie з'яўляецца Ілля Аксёнаў. „Праглынутыя традыцыйнай беларускай дэпрэсухай, мы вырашылі зрабіць нешта па-сапраўднаму цікавае, ударыўшы па агульнай шэрасці менскай штодзённасці яркім, патрыятычным адзеннем", — распавёў ён у сакавіку 2014 года сайту „Делаем вместе".

У інтэрв'ю папярэдняму інтэрнэтвыданню Ілля адзначаў, што стварыць брэнд яго натхнілі сярэднявечныя замкі і бітвы. „У 2010 годзе я пабываў на фестывалі-рэканструкцыі Грунвальдскай бітвы ў Польшчы. Там упершыню ўбачыў на маладых людзях стыльныя майкі з прынтамі пра культуру і гісторыю Польшчы. Мяне вельмі ўразілі іх разнастайнасць і якасць. Захацелася зрабіць нешта падобнае ў Беларусі. Прычым, з дызайнам або вытворчасцю адзення да гэтага я звязаны не быў, працаваў геолагам", — кажа Ілля.

Паводле яго, пасля закупу ў Польшчы 30 шапак ён там жа заказаў вышыўку герба «Калюмны» (геральдычны знак Вялікага Княства Літоўскага). „Чаму шапкі? Іх было зрабіць прасцей за ўсё. Я падумаў, што на самой справе мяне натхняе. І зразумеў, што сярэднявечныя замкі, бітвы. А «Калюмны» — сімвал доблесці нашых продкаў. ВКЛ была даволі прагрэсіўнай для свайго часу дзяржавай, якой могуць ганарыцца сучасныя беларусы", — адзначае заснавальнік брэнда LSTR Adzieńnie.

Цяпер у яго камандзе восем чалавек: Ілля генеруе ўсе ідэі, адказвае за дызайн, брэндынг; чацвёра працуюць на вытворчасці, адзін займаецца дакументамі і фінансамі, таксама ў іх працуе прадавец. Нядаўна да каманды далучыўся маркетолаг, які вядзе акаўнт у сацыяльнай сетцы і адказвае на паведамленні пакупнікоў.

❖ **Аляксандр ЯКІМЮК**



Дата з календара

# 160 гадоў з дня нараджэння
# Аляксандра САДОЎСКАГА

Вучоны-фізік, адмысловец у галіне оптыкі і электрамагнетызму Аляксандр Садоўскі нарадзіўся 24 лістапада 1859 г. у Віцебску. Паходзіў са збяднелага шляхецкага роду, які меў герб „Любіч". Дзяцінства Аляксандра прайшло ў Віцебску і яго наваколлі. Ён атрымаў пачатковую адукацыю дома. У 1872 г. Садоўскія пераехалі ў Хельсінкі, дзе Аляксандр пайшоў у трэці клас Аляксандраўскай мужчынскай гімназіі. У 1877 г. скончыў гімназію сярод усяго 4 выпускнікоў. Ужо тады выявіў схільнасць да фізічна-матэматычных навук.

У 1881 г. Садоўскі паспяхова скончыў Імператарскі ўніверсітэт у Пецярбургу, бліскуча абараніўшы дыпломную працу і атрымаўшы ступень кандыдата на фізічна-матэматычным аддзяленні. Пазней выкладаў у вышэйшых навучальных установах Пецярбурга. З 1894 г. працаваў у Юр'еўскім (Тартускім) універсітэце. У тым жа годзе навуковец выказаў думку пра наяўнасць яшчэ адной механічнай уласцівасці святла — вярчальнага ўздзеяння светлавой хвалі. У 1898 г. ён апублікаваў працу „Пандэраматорныя дзеянні электрамагнітных і светлавых хваль на крышталі". Аднак інтуітыўную вялікую здагадку вучонага не ацанілі і нават моцна крытыкавалі. Садоўскі спыніў свае фізічныя доследы і пасля 1900 г. зусім не друкаваўся, а ўсе свае сілы аддаваў педагагічнай дзейнасці. У выкладанні фізікі ён дасягнуў выдатных вынікаў. У 1902 г. Аляксандр Садоўскі быў адным з арганізатараў і ўдзельнікаў першага ў Расеі з'езда выкладчыкаў фізікі.

Пазней аўтарства тэорыі адкрыцця (так званы „эфект Садоўскага") сталі прыпісваць іншым фізікам. І ўсё ж справядлівасць была адноўлена. У 1911 г. вядомы еўрапейскі фізік Паўль Эрэнфэст на пасяджэнні Расейскага фізічна-хімічнага таварыства выступіў у абарону аўтарскіх правоў Садоўскага.

У час Першай сусветнай вайны вучоны ўдзельнічаў у распрацоўцы аптычнай часткі прылад марской артылерыі, працаваў у Вайскова-прамысловым камітэце Петраграда. З 1916 г. Садоўскі — загадчык кафедры Мікалаеўскай марской акадэміі. У снежні 1917 г. Савет ужо Петраградскага ўніверсітэта, узяўшы пад увагу навуковыя заслугі, прысудзіў Садоўскаму ступень ганаровага доктара фізікі без абароны дысертацыі. Але ён быў змушаны пераехаць у Выбарг, дзе жыла жонка з малодшым сынам Міхаілам. Каб пракарміць сям'ю, некаторы час працаваў выкладчыкам фізікі Выбаргскай рэальнай вучэльні. Старэйшыя дзеці Аляксандр і Кацярына былі ўжо самастойнымі людзьмі, працавалі медыкамі. Кастрычніцкі бальшавіцкі пераварот усё ж змусіў Аляксандра Садоўскага падацца ў эміграцыю. Выбарг тым часам апынуўся ў складзе Фінляндыі.

Па некаторых звестках ужо з 1919 г. жыў і працаваў у Празе. А ў 1921 г. з прапановы прэзідэнта Чэхаславацкай Рэспублікі Томаша Масарыка пачалася рэалізацыя праграмы дапамогі эмігрантам з савецкай Расеі. Пэўны непрацяглы час Садоўскі працаваў на ўніверсітэце. Памёр у сталіцы Чэхіі 26 снежня 1923 г. ад прыступу стэнакардыі. Пахаваны на вядомых Альшанскіх могілках. Пра апошнія гады жыцця навукоўца амаль нічога невядома. Рэч у тым, што так званы Пражскі архіў пасля Другой сусветнай вайны быў перададзены савецкаму кіраўніцтву і засакрэчаны спецслужбамі. У 1994 г. у Беларусі выйшла невялікая кніжка Таццяны Процькі „Даследчык таямніцаў святла", у якой расказваецца пра жыццё і дзейнасць Аляксандра Садоўскага.

❖ **Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

## Баравікі ў лістападзе

Сёлетняй восенню ў лясах, між іншым, на тэрыторыі Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета маем грыбны ўраджай. Калі было цяплейшае надвор'е, грыбнікі назбіралі шмат плісак. У кастрычніку і лістападзе ходзяць у лес па зялёнкі і падзялёнкі, але і знаходзяць іншыя віды грыбоў — краснюкі, багнюкі, маслякі, сыраежкі, рашотнікі, апенькі і... баравікі. І падумаць, што цяпер маем ужо палавіну лістапада.

На фотаздымку Кастусь Целушэцкі, жыхар Новага Ляўкова, паказвае баравікі, знойдзеныя ім у хваёвым лесе ў бліжэйшай ваколіцы 14 лістапада (дакладна дзе, паблізу якой вёскі, грыбнікі не скажуць, не выдадуць сваіх грыбных месц, гэта іх тайна, таму і не пытайце іх пра гэта).

**Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

## Бяздушнасць

На старонцы фейсбука ад 5 лістапада прачытаў я запіс Монікі Гапанюк: «Падляшша. Сяло Кузава. Хтосьці ў нягодны спосаб пазбыўся праблемы. Выкінуў з аўтамабіля маленькіх сабачак. Людзі, падумайце што робіце! Шукаю нейкага добрага фонду, або часовага доміка. Адны хлопчыкі. Панечка з добрым сэрцам змясціла іх часова ў хлеўчыку Я куплю корм і наперамен даглядаем. Адной не пад сілу справіцца. Прашу аб дапамогу. Гэта Чаромхаўская гміна. Калі не знайду фонду, тады паедуць у прытулак у Радысах!!! Не дазваляйма, каб туды трапілі. Кантакт па тэлефоне 504-477-625». Калі я пісаў гэты тэкст і паспрабаваў патэлефанаваць аўтару запісу па ўказаным нумары, у трубцы пачуў голас: «Абанент часова недаступны».

Гадзіну пазней пазваніў званок. У трубцы пачуўся голас незнаёмай жанчыны.

— Хтосьці да мяне тэлефанаваў. У справе сабачак?.

— Гэта я, Уладзімір Сідарук, карэспандэнт «Нівы». Скажыце, калі ласка, дзе іх знайшлі і які іхні зараз лёс?

— Сабачак выкінулі побач крамы ў Кузаве, — адказала субяседніца. — Ужо маюць домік у Варшаве. Калі на запіс адклікнуўся фонд, дык я паехала ў Кузаву, забрала маленькіх звяркоў і перадала ў Варшаву.

Жанчына аказалася маёй суседачкай, праз дом у Кузаве, а замужам яна ў Кляшчэлях.

— Я — самая старэйшая дачка Марысі Вайташак. Працую валанцёркай у звярыных фондах. Зараз еду на машыне ў Беласток. Не магу гаварыць.

Я са свайго боку рэкамендаваў: «Можаце пазнаёміцца з маім профілем на інтэрнэт-старонцы фейсбука. Знойдзеце шмат інфармацыі. Затым жадаю цікавага чытання».

**Уладзімір СІДАРУК**

## Чаромхаўскія стаўкі збору адкідаў

З пачаткам новага года павышаюцца стаўкі за вываз камунальных адкідаў. У кастрычніку былі аб'яўлены таргі ў Чаромхаўскай гміне. Удзельнічала толькі адна фірма, затым і яна прад'явіла самую карысную прапанову. Гэта ПУК — Прадпрыемства камунальных паслуг з Гайнаўкі. Дамова была падпісана ў сядзібе Гмінай управы 12 лістапада 2019 года. Гмінны самаўрад абавязаны будзе плаціць прадпрыемству 886,68 зл. за вываз тоны адкідаў. Паводле новага закона не будзе змешанага збору смецця, адно селектыўны. Хто не будзе прытрымлівацца законаў, заплаціць штраф. Як паінфармаваў кіраўнік Гміннай камунальнай гаспадаркі Ірыней Леанюк для жыхароў Чаромхаўскай гміны будуць абавязваць месячныя стаўкі: для гаспадаркі з 1-2 чалавек — 25 зл.; адпаведна з 3-4 чалавек — 35 зл.; з 5 і больш чалавек — 45 зл.

Затым штоквартальна трэба будзе мне, адзінокаму, заплаціць 75 зл. Раней плаціў адно 39 зл. Вось якую дабрадзейнасць атрымаў сеніёр няздольны да самастойнага існавання. „Добрая змена" хваліцца праграмай Сеніёр-500+, але ёю не магу пакарыстаца, паколькі месячная мая плата брута перавышае 104 зл. А нованароджанае дзіця атрымае пасля рэгістрацыі паўтысячы штомесяц без падаходных крытэрыяў. І дзе тут справядлівасць? На маю думку, справядлівай будзе такая вось народная мудрасць: «Беднаму заўжды вецер у вочы». Святая праўда.

## Юбіляры

У Бельскай гміне 50-годдзе шлюбнага жыцця святкавалі Марыя і Уладзімір Галёнкі з вёскі Казлы, Стэфанія і Юрый Гарашкевічы з Праневіч, Крыстына і Валенты Опалі з Берасцянкі, Людміла і Пётр Аверчукі з Дубяжына, Марыя і Анатоль Сахарчукі з Локніцы, Ніна і Ян Смалеўскія з Плёсак, Ніна і Рыгор Шаховічы з Сакоў, Галена і Уладзімір Шурбакі з Парцава ды Вера і Мікалай Томчукі з Раек.

60 гадоў пражылі шлюбныя пары Анна і Ян Артэмюкі з Кнаразоў, Браніслава і Рышард Банькоўскія з вёскі Вароні, Марыя і Аляксандр Корсакі з Гацькоў ды Стэфанія і Станіслаў Петшыкоўскія з Петшыкова-Галомбкаў. **(яц)**

## Адгаданка Адгаданка Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. злакавая расліна на аброк = 32 _ 31 _ 2 _ 3 _;
2. рака ў Пакістане = 26 _ 25 _ 11 _;
3. выгада, у якой... рыс = 15 _ 16 _ 17 _ 18 _ 39 _ 40 _ 41 _;
4. драпежны звер з грывай = 1 _ 24 _ 33 _;
5. горад, дзе Сож уліваецца ў Дняпро = 34 _ 10 _ 13 _ 14 _;
6. зорная пара сутак = 22 _ 28 _ 27 _;
7. скандынаўская легенда = 36 _ 35 _ 29 _ 30 _;
8. форма тулава чалавека ў... Пакістане = 19 __ 20 __ 21 __ 23 __;
9. азіяцкі чараўнік = 4 __ 12 __ 5 __ 38 __ 37 __;
10. напрыклад, Тэхас або Арызона = 8 __ 9 __ 6 __ 7 __.

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | | 4 | 5 | 6 | 7 | | |
| 8 | 9 | 10 | | 11 | 12 | 13 | | 14 | |
| 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 |
| 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | | 31 | 32 | |
| 33 | 34 | 35 | 36 | 37 | 38 | 39 | 40 | 41 | |

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 43 нумара**

Маўр, пот, пул, час, шоў, шчыт.

Рашэнне: **Пост пашчу ды ў рот машчу**.

## 24.11 — 30.11

**(22.03. — 20.04.)** 25-27.11. прымеш удзел у вельмі гучнай і ўдалай імпрэзе. 24-26.11., калі будзеш браць шлюб, ты выйграў як на латарэі. 26.11. будзеш вельмі патрабавальны да партнёра, што можа стаць прычынай непаразуменняў. 24-27.11. можаш трапіць на цікавую прапанову працы, з абучэннем. На працы не ўсе будуць табе спрыяць. Не рабі нічога сілай.

**(21.04. — 21.05.)** 24-27.11. будзеш бунтарскім, можа, лепш не паказвайся на вочы шэфу. А 24-26.11. можаш цешыцца павышэннем. 26-30.11. адкрыюцца перад табою новыя шанцы на новы этап у старых сувязях. 27-29.11. добрыя задумы на прыбытковы бізнес. З ахвотай будзеш праводзіць час у гандлёвых цэнтрах. Форма някепская, але не адмаўляйся ад курацый, якія табе прыпісалі.

**(22.05. — 22.06.)** 24-26.11. на тваім рахунку можа паявіцца мілая неспадзяванка. Блізняты, якія шукаюць працу, могуць дачакацца адказаў на свае прапановы; нават калі размова не кончыцца поспехам, варта паказацца. 25-27.11. можаш расчараваціца, чакаючы лішне многага. 29-30.11. можаш сустрэць кагосьці, хто паможа табе ў кар'еры. Хтось спрабуе перасварыць цябе з блізкімі!

**(23.06. — 23.07.)** 26-30.11. можаш закахацца з першага пагляду. Да 26.11. не чакай зашмат ад людзей, якія чым больш гавораць, тым менш з гэтага вынікае. 27-29.11. цікавыя прапановы працы і супрацоўніцтва; толькі падпісвай усё, каб было легальна. Каб не накупіць непатрэбшчыны, лепш аддай свой кашалёк камусь падварту! І падыдзі ўрэшце да спецыяліста, да якога выбіраешся як сойка за мора!

**(24.07. — 23.08.)** 24-26.11. пераканаешся, як добра стаяць твае акцыі ў фірме. 25-27.11. можа стаць пачаткам фантастычнай прыгоды. Але аднаразова 24-27.11. можа табе здацца, што супраць цябе ўвесь свет! Многа аптымізму, радасці, энтузіязму. У фінансах канец застою. Інвестуй, карыстаючыся вопытам сям'і. У каханні дрыжыкі эмоцый.

**(24.08. — 23.09.)** Трымайся рэаліяў. Цяпер здавай экзамены, ідзі на важныя размовы. 24-26.11. ідэальны час на наладжанне суполкі, падпісанне кантракта, фінансавыя трансакцыі. Для пар думаючых аб будучыні найлепшы час 24-26.11. 25-27.11. шанцы на змены ў ладах, якія перасталі табе пасаваць. 29-30.11. узмоцніш сваю прафесійную пазіцыю.

**(24.09. — 23.10.)** Шчаслівыя выпадкі! Радасць жыцця, крэатыўнасць. 26-30.11. трапіцца табе задума, як заваяваць чыёсьці сэрца. 25-27.11. асабліва мілыя лады з суседзямі. 24-26.11. будзеш ведаць, на што паставіць! 29-30.11. усе прызнаюць табе рацыю, нават тыя, хто цябе крытыкаваў. Шматабяцальныя дні! Ажыўленне, гарачыя падзеі, рух у інтарэсах, мілая атмасфера на працы.

**(24.10. — 22.11.)** Вырастуць твая амбіцыя і ахвота да сапернiцтва. Але можа аказацца, што няма з кім змагацца, бо карты ўжо раздадзены... 24-26.11. можаш наладзіць інтарэс свайго жыцця; ідэальны час для інвестыцый. Маеш шанц добра ўкласці капітал, памножыць свае ашчаднасці. Хаця 24-27.11. можа папсавацца табе камп'ютар, тэлефон ці іншая прылада.

**(23.11. — 22.12.)** 24-26.11. гарачыя моманты ў пары; найлепшы час на заручыны, шлюб. У старых парах надробіце страчаны час. 25-27.11. можаш змяніць тое, што табе здаўна мяшае. Маладзік 25-27.11. прынясе табе вялікія змены. Некаторыя Стральцы, што моцна хварэлі, вернуцца да здароўя, іншыя больш усвядомяць свой арганізм і яго патрэбы, кінуць кепскія звычкі, пачнуць менш спажываць мяса, солі, цукру. Добра адпачывай, высыпайся. Стралец з трэцяй дэкады — апануй свой апетыт, не патаўсцей!

**(23.12. — 20.01.)** Пасля 26.11. усё будзе прасцейшым, будзеш больш сардэчны. У парах з вялікай розніцай характараў кампраміс можа быць немагчымым. На працы магчымасць шанцу на павышэнне; пільнуйся прынцыпаў, справядлівасці і сумленнасці. Сваю дзейнасць засноўвай у апошнія дні месяца. Схадзі да цырульніка (можаш рэзка змяніць прычоску), да касметолага. Засяроджвайся на пазітыўным. 29-30.11. з тваіх вуснаў прагучаць вельмі разумныя словы!

**(21.01. — 19.02.)** 26-30.11. пабачыш шанцы, якіх ты дасюль не выкарыстаў. 24-26.11. будуць да цябе вельмі прыхільныя чыноўнікі і прадстаўнікі закону; можаш нават пазбегнуць нейкага пакарання! 24-27.11. вельмі пільнуйся пры прыладах, асабліва электрычных. 24-27.11. не рабі нікому на злосць, бо можаш шмат страціць. 26-30.11. прачнуцца ў табе мастацкія таленты; можаш стварыць штосьці вельмі прыгожае!

**(20.02. — 21.03.)** Справішся з абавязкамі, цярпліва пераможаш перашкоды. 27-29.11. вышапчаш у вуха камусьці блізкаму ўсе свае мары і прагі. Файныя размовы да белага рання. Пастаў на сваю духоўнасць, слухай інтуіцыю. Хаця маладзік 25-27.11. хіба не ўсцеражэ цябе перад неабдуманымі рашэннямі! Але ж старайся!

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714
**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00].
**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

# Цікавае мінулае мяшчанскіх вёсак распалажаных вакол Бельска-Падляшскага

Сустрэча на тэму «Мяшчанскія вёскі Спічкі, Відава, Парцава» адбылася 8 лістапада ў Гарадской публічнай бібліятэцы ў Бельску-Падляшскім. Пра мінулае згаданых мяшчанскіх вёсак распавяла экскурсавод Івона Зінкевіч, а пасля выхадцы з гэтых сёлаў адклікнуліся на здарэнні з мінулага і гаварылі, якія памяткі з прошлага захаваліся па сённяшні час. Спадарыня Івона Зінкевіч успомніла таксама папярэднюю сустрэчу ў бельскай бібліятэцы, якая адбылася 4 кастрычніка. Тады яна расказвала пра іншыя падбельскія мяшчанскія вёскі — Шасталы, Стрыкі і Ягуштова. На падставе перапісу насельніцтва 1921 года, праведзенага ўжо ў незалежнай Польшчы, відаць, што ў згаданых мяшчанскіх вёсках амаль усе жыхары запісаліся беларусамі. Палякамі найчасцей запісваліся католікі, а выключэннем былі жыхары Відава, дзе крыху праваслаўных запісалася палякамі.



У дзень святога велікамучаніка Дзмітрыя Салунскага, 8 лістапада, асабліва святкаванні праходзілі на Дзмітрыеўскай горцы каля Сакоў, у Дзмітрыеўскім прыходзе ў Гайнаўцы і ў Дзмітрыеўскай царкве ў Парцаве. Якраз у гэты дзень вечарам пра гісторыю пабудовы храма ў гонар святога Дзмітрыя ў Парцаве распавяла ў бельскай бібліятэцы Івона Зінкевіч. Паказала яна на фатаграфіі цяперашні выгляд царквы, распалажанай на парцаўскіх могілках, якая, так як і ў мінулым, з'яўляецца філіяльнай царквой Уваскрэсенскага прыхода ў Бельску-Падляшскім.

— Ёсць меркаванні, што царква ў Парцаве была збудавана, між іншым, з дыль, з якіх раней быў узведзены шпіхлер у Шчытах або ў Кленіках. Святкаванні ў гонар святога Дзмітрыя Салунскага адбываюцца ў Дзмітрыеўскай царкве ў Парцаве па сённяшні час. Увесь час у парцаўскай царквы статус філіяльнай царквы Прыхода Уваскрэсення Гасподняга ў Бельску-Падляшскім. Аднак калі Уваскрэсенскі прыход у Бельску стаў уніяцкай парафіяй, частка жыхароў Парцава стала маліцца ў Мікалаеўскім манастыры ў Бельску, які не перайшоў на ўніяцтва, — сказала экскурсавод Івона Зінкевіч.

Сабраных, сярод якіх былі выхадцы са згаданых мяшчанскіх вёсак, прывітала Галіна Сакалоўская з Гарадской публічнай бібліятэкі ў Бельску-Падляшскім.

Івона Зінкевіч праінфармавала, што Парцава, першапачаткова званае Пятровам, так як і суседнія вёскі, было моцна знішчана ў час шведскай вайны. Паводле люстрацыі, праведзенай у 1576 годзе, у Парцаве было 45 валок зямлі, а паводле перапісу насельніцтва 1798 года ў вёсцы было 120 гаспадароў і 298 валок зямлі. У 1847 годзе ў Парцаве была заснавана сялянская школа — першая такая асветная ўстанова ў Бельскім павеце. У час перапісу насельніцтва 1921 года ў Парцаве жыло 266 чалавек, якія запісаліся беларусамі, а 8 жыхароў назвалі тады сябе палякамі. У час нямецкай акупацыі ў Парцаве дзейнічала беларуская школа.

Удзельнікі сустрэчы многа даведаліся аб мінулым мяшчанскай вёскі Відава.

— Зараз у Відаве можна вылучыць старую частку вёскі, у якой доўгая гісторыя, і новую частку, якая разраслася апошнім часам на ўскраіне Бельска-Падляшскага. У XVI і XVII стагоддзях Відава называлі яшчэ Станіслававам. Прывілеем вялікага князя Аляксандра Ягелончыка ад


■ Экскурсавод Івона Зінкевіч

1501 года войт Бельска Якуб Гопен атрымаў ва ўладанне ўрочышчы Відаўшчына і Завідаўшчына ў наваколлі Станіслававa. Паводле люстрацыі каралеўскіх маёмасцей, праведзенай у 1576 годзе, у Станіслававе былі 74 валокі дабраякаснай зямлі. У другой палове XVII стагоддзя вёску перайменавалі са Станіслававa на Відава. Аднак яшчэ раней, у пачатку XVII стагоддзя, уласнікам маёнтка каля Відава стаў Любмаер, які сталі называць Любмаеровіна. Мяркую, што ад парку гэтага маёнтка засталіся два дубы, якіх фатаграфіі я тут прэзентую, — сказала Івона Зінкевіч.

У пачатку XIX стагоддзя маёнтак Любмаеровіна быў прададзены бельскім мяшчанам. У 1798 годзе ў Відаве было 90 гаспадароў на 205 валоках зямлі.

— У 1855 годзе многа жыхароў Відава памерла ў час эпідэміі халеры. Калі пазней град спрычыніўся да вялікіх страт у плёнах, дабытку і будынках, жыхары вёскі сталі асабліва маліцца ў вялікую сераду перад Вялікаднем, называючы гэты дзень «градовай серадой». Згодна перапісу насельніцтва 1921 года ў Відаве жылі 445 чалавек — 444 праваслаўных і адзін католік.Тады 362 жыхары Відава запісаліся беларусамі, а 83 — палякамі, — удакладніла экскурсавод Івона Зінкевіч.

У ліпені 1944 года, падчас наступлення савецкай арміі на нямецкія войскі многа дамоў у Відаве ў выніку ваенных дзеяняў згарэла. У 2000 годзе была завершана будова могільнікавай царквы Каспераўскай іконы Божай Маці, якая ад 2007 года стала самастойным прыходам.

— Спічкі былі заснаваны ў час валочнай памеры ў XVI стагоддзі. У 1890 годзе ў вёсцы была адкрыта царкоўная школа. З мінулага засталося, што жыхары Спічкоў, якія ў мінулым вылучаліся ў наваколлі як мяшчане, надалей належаць да Міхайлаўскага прыхода ў Бельску-Падляшскім, — сказала дакладчык Івона Зінкевіч. — У час перапісу насельніцтва 1921 года ўсе 187 жыхароў Спічкоў запісаліся праваслаўнымі беларусамі.

Экскурсавод Івона Зінкевіч успомніла таксама папярэднюю сустрэчу, прысвечаную мяшчанскім вёскам Шасталы, Стрыкі і Ягуштова. Мяркуецца, што Аўгустова, якое ў народзе называюць Ягуштовам, было названае ў гонар караля Жыгімонта Аўгуста. У люстрацыйным дакуменце ад 1576 года паведамляецца, што Аўгустову належалі 164 валокі зямлі, якіх уласнікамі былі бельскія мяшчане. У 1870-1876 гадах у вёсцы была збудавана царква Іаана Багаслова, непадалёк ад якой распаложаны вайсковы могільнік перыяду Першай сусветнай вайны. У час вайны і бежанства многа жыхароў вёскі Ягуштова памерла. У 1900 годзе вёска налічвала 1216 чалавек, а ў 1921 годзе ў 59 дамах жыло толькі 387 асоб. З гэтага ліку 385 асоб запісалася праваслаўнымі беларусамі, а 2 — палякамі каталіцкага веравызнання. Апошнім часам Ягуштова і Відава моцна разраслíся па прычыне распалажэння побач Бельска-Падляшскага. У прыгарадных вёсках пасялілася многа асоб, якія працуюць у Бельску і рашыліся жыць на гістарычным прадмесці горада. Непадалёк ад Ягуштова, ва ўрочышчы Баравіск, знаходзіцца праваслаўны могільнік і ўзведзеная на ім у 1992 годзе, на месцы колішняй, невялікая Панцеляймонаўская царква, якая належыць да Прыхода Іаана Багаслова ў Ягуштове.

Стрыкі згадваюцца на зломе XV і XVI стагоддзяў як прадмесце Бельска. У час люстрацыі 1576 года ў Стрыках былі зафіксаваны 43 валокі зямлі. У 1798 годзе ў вёсцы былі 81 дом і 184 валокі зямлі. У 1814 годзе на вясковых могілках знаходзілася Ануфрыеўская царква. У лесе, каля вёскі, знаходзіцца магіла перыяду паўстання 1863 года. Згодна перапісу 1921 года ў Стрыках было 45 дамоў, а вёска налічвала 205 чалавек. З гэтага ліку 174 жыхары запісаліся праваслаўнымі беларусамі, а 31 — палякамі каталіцкага веравызнання. Жыхары сяла Стрыкі належаць да Прыхода Іаана Багаслова ў Ягуштове.

Інфармацыя пра Шасталы паяўляецца ў 1528 годзе, якія тады называліся Кошчынам. У 1576 годзе жыхары вёскі гаспадарылі на 29 валоках зямлі. Назва Шасталы паходзіць ад роду Шасталаў, які раней быў уласнікам навакольных маёмасцей. У 1798 годзе ў Шасталах было 65 гаспадароў на 201 валоцы зямлі. У 1896 годзе ў Шасталах знаходзіўся 61 дом, у якіх жылі 309 чалавек. Пасля Першай сусветнай вайны лік жыхароў вёскі намнога паменшаў. Перапіс насельніцтва 1921 года зафіксаваў у Шасталах 28 дамоў і 126 чалавек — усе заявілі, што з'яўляюцца праваслаўнымі беларусамі. У 1999-2005 гадах каля мясцовых могілак была збудаваная царква Іконы Божай Маці «Спарыцельніца хлябоў». Жыхары Шасталаў у мінулым належалі да Прачысценскага прыхода ў Бельску-Падляшскім, а з 1839 года прыналежаць Міхайлаўскаму прыходу ў Бельску.
У частцы згаданых мяшчанскіх вёсак у час Першай сусветнай вайны значна паменшаў лік дамоў і жыхароў, што перш за ўсё было вельмі трагічнай паслядоўнасцю бежанства і ваенных дзеянняў.

Пасля даклада экскурсавод Івона Зінкевіч запрапанавала выхадцам з мяшчанскіх сёлаў выказацца наконт іх мінулага. Сабраныя звярталі ўвагу на могілкі, старыя цэрквы, іншыя памяткі прошлага і гаварылі, што ўспаміны пра мяшчанскі характар іх сёлаў перадаваліся з пакалення ў пакаленне.

— У мінулым дзяўчаты з мяшчанскіх сёлаў неахвотна ішлі замуж у іншыя вёскі, а памяць пра мяшчанскі характар нашых сёлаў перадавалася ажно да нашых часоў, — заявіла ў канцы сустрэчы Івона Зінкевіч. Напомніла таксама, што ў мінулым жыхары вёсак Аўгустова, Відава, Парцава, Спічкі, Стрыкі і Шасталы, як мяшчане, былі вызвалены ад усіх прыгонных абавязкаў, якія выконвалі жыхары суседніх сёлаў, што да адмены прыгоннага права было вельмі важнай справай.

Тэкст і фота
**Аляксея МАРОЗА**

ISSN 0546-1960